# ЛіМ ЛІТАРАТУРА і МАСТАЦТВА

31 КАСТРЫЧНІКА 2003 г. № 44—45/4229—4230


## АНОНС!

Набліжаецца 60-годдзе вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў і 60-годдзе Перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне. Установа «Літаратура і мастацтва» праводзіць агульнанацыянальную акцыю па стварэнні кнігі «Наша Перамога». Запрашаем усіх жадаючых да супрацоўніцтва.



Валянцін Елізар'еў, стварыўшы свой мастацкі свет, сваё імя ў харэаграфіі, свой балетны тэатр, стварыў і свой час у гісторыі развіцця беларускай культуры.

12



## Адам
## СНЯЦЦА СНЫ АБ БЕЛАРУСІ

*Помнік Адаму Міцкевічу ў беларускай сталіцы планавалі паставіць яшчэ пяць гадоў назад, калі адзначалася ягонае 200-годдзе. Але помнік Паэту, якога шануюць як свайго тры народы-суседзі, паўстаў толькі зараз. Пабачыўшы бронзавага Міцкевіча ў скверы на скрыжаванні Нямігі і Гарадскога Вала, прыходзіш да думкі, што лепшага месца для гэтага помніка ў Мінску і не знайсці.*

2

Фота Кастуся ДРОБАВА

# КОЛА ДЗЁН

**Грамадзяне Беларусі і Расіі павінны ведаць поўную інфармацыю пра тое, што сёння адбываецца ў нашай Саюзнай дзяржаве, якая яе будучыня. Пра гэта заявіў Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка, адкрываючы 24 кастрычніка прэс-канферэнцыю, прысвечаную важным пытанням беларуска-расійскай інтэграцыі. Актуальнасць тэмы сабрала за "круглым сталом" дзесяткі прадстаўнікоў айчынных і замежных сродкаў масавай інфармацыі. Акрамя таго сотні грамадзян нашых краін далучыліся да размовы, даслаўшы свае пытанні на Інтэрнет-форум. Кіраўнік беларускай дзяржавы праінфармаваў прысутных пра вынікі апошняга пасяджэння Вышэйшага дзяржаўнага савета Саюзнай дзяржавы. У ходзе размовы з журналістамі, якая трансліравалася ў Інтэрнеце амаль тры з паловай гадзіны, Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка адказаў больш чым на 40 пытанняў.**

### ПАСЯДЖЭННЕ ТЫДНЯ

У Брэсце ўдзельнікі шаснаццатага Міжбанкаўскага валютнага савета прааналізавалі эканамічную сітуацыю і ход рэалізацыі Асноўных напрамкаў грашова-крэдытнай палітыкі ў Беларусі і Расіі за тры кварталы 2003 года, а таксама разгледзелі галоўныя прынцыпы і важнейшыя параметры падрыхтоўкі праектаў дадзеных дакументаў на 2004 год. Удзельнікі пасяджэння прынялі да ведама прапанову галоўнага банка нашай краіны аб устанаўленні на першы квартал наступнага года ўзроўню дэвальвацыі афіцыйнага курса беларускага рубля да расійскага 0,6 працэнта ў сярэднім за месяц з адхіленнем плюс-мінус 1 працэнт у разліку на квартал.

### ЮБІЛЕЙ ТЫДНЯ

Кіраўнік дзяржавы Аляксандр Лукашэнка 23 кастрычніка па традыцыі сустрэўся з членамі Сінода Беларускай праваслаўнай царквы. Аднак цяперашняя сустрэча стала асаблівай — яна была азнаменавана 25-годдзем архіпастырскага служэння мітрапаліта Мінскага і Слуцкага Філарэта Патрыяршага Экзарха ўсяе Беларусі. У гэтай сувязі Прэзідэнт ад імя народа і свецкай улады павіншаваў Уладыку і ўручыў яму ордэн Францыска Скарыны.

### РАШЭННЕ ТЫДНЯ

Мінгарвыканкам прыняў рашэнне заснаваць з 1 верасня 2003 года па 31 мая 2004-га штомесячныя даплаты да акладу работнікам дзяржаўных устаноў адукацыі. Усе педагогі дадаткова будуць атрымліваць па тры базавыя велічыні прапарцыянальна нагрузцы. Прынятае такога рашэння дазволіць павысіць сярэднюю зарплату мінскіх настаўнікаў на 16 працэнтаў — з 253 да 301 тысячы рублёў, а маладых настаўнікаў на 49 працэнтаў: з 101 да 148 тысяч.

### ЛІЧБЫ ТЫДНЯ

Як паведамілі карэспандэнту БЕЛТА ў Прадстаўніцтве Упраўлення вярхоўнага камісара ААН па справах бежанцаў, у нашай краіне цяпер статус бежанца маюць 510 афганцаў. У ліку афіцыйна прызнаных бежанцамі таксама 83 чалавекі з Грузіі, 28 — з Таджыкістана, 27 — з Азербайджана, 23 — з Эфіопіі, 7 — з Палесціны, 5 — з Ірака, 2 — з Індыі...

### СТАТЫСТЫКА ТЫДНЯ

Мінская гарадская станцыя хуткай медыцынскай дапамогі штогод абслугоўвае больш за 600 тысяч выклікаў. Цяпер у мінскай службе "хуткай дапамогі" працуе больш за 1 тысячу фельчараў, 400 урачоў, 125 кругласутачных брыгад, якія за суткі робяць больш як 1650 выездаў да хворых. На экстранны выклік брыгада "хуткай дапамогі" выязджае за 4 хвіліны, на тэрміновы — за 15 хвілін, для аказання неадкладнай дапамогі — на працягу 1 гадзіны. Сярэдняя хуткасць прыбыцця брыгады "хуткай дапамогі" ў Мінску складае 8—12 хвілін. 30 працэнтаў усіх выездаў "хуткай дапамогі" складаюць выезды па скаргах на сардэчна-сасудзістыя захворванні, 15 працэнтаў — накот лёгачных рэспіраторных захворванняў, 12 працэнтаў — наконт болі ў брушной поласці.

### РУБЕЖ ТЫДНЯ

На рынку пластыкавых картак нашай краіны ААБ "Беларусбанк" трывала заняў лідзіруючае месца, першым пераадолеўшы паўмільённы рубеж. Дзякуючы камп'ютэру, вядома, што ўладальнікам 500-тысячнай карткі стала жыхарка Гродна Валянціна Генюш.

### ПЕРСПЕКТЫВА ТЫДНЯ

За 9 месяцаў гэтага года ў Мінску было ўстаноўлена 13 тысяч новых тэлефонных нумароў. Да канца года колькасць абанентаў узрасце яшчэ на столькі ж.

**ДАТЫ**

***20 кастрычніка ў сталічным Тэатры юнага гледача адбылася сустрэча з лаўрэатамі прэміі ЛКСМБ у галіне літаратуры, навукі і мастацтва, арганізаванае Беларускім рэспубліканскім Саюзам моладзі.***



# ГЭТА НАША ГІСТОРЫЯ

Сёння адзін пералік імёнаў тых, хто ў розныя гады быў адзначаны галоўнай камсамольскай прэміяй, можа заняць палову газетнай паласы. Але справа нават не ў гэтым. Куды важней тое, што абсалютная большасць лаўрэатаў, якія некалі былі заўважаны і падтрыманы камсамолам (а для моладзі падобная падтрымка ва ўсе часы была і застаецца важнай умовай далейшага росту), сёння людзі не проста добра вядомыя ў нашай краіне. Без іх ужо цяжка ўявіць сучасную беларускую культуру і навуку. Пацвярджэннем таму — хоць бы тыя, хто 20 кастрычніка выходзіў на сцэну Тэатра юнага гледача: драматург А. Дудараў, кінарэжысёры І. Дабралюбаў і В. Нікіфараў, кампазітары І. Лучанок, Л. Захлеўны і В. Раінчык, спявак А. Ярмоленка, архітэктар Л. Левін, спявачка Н. Мікуліч, акцёр В. Манаеў...

Узгадалі на вечарыне і часопіс "Маладосць", які на працягу 38 гадоў ад пачатку свайго з'яўлення на свет быў органам ЦК ЛКСМБ і ў рэдакцыі якога ў розныя часы таксама працавалі лаўрэаты прэміі беларускага камсамола І. Навуменка, А. Асіпенка, Г. Бураўкін, Я. Янішчыц, В. Зуёнак, А. Грачанікаў.

Мінулае можна любіць альбо не любіць, але яго нельга перакрэсліць, а значыць — ад яго нельга адмовіцца. А яшчэ лепш (і разумней) — узяць з сабою ў будучыню ўсё лепшае з таго, што было створана нашымі папярэднікамі. Беларускі рэспубліканскі саюз моладзі гэта разумее. А значыць, у яго ёсць будучыня.

**Н. К.**





**ВЫСТАВЫ**



•

25 кастрычніка споўнілася 70 гадоў вядомай мастачцы, заслужанаму дзеячу мастацтваў Беларусі Нінель Шчаснай. З гэтай нагоды ў Палацы Рэспублікі ў мастацкай галерэі БДУ культуры адкрылася выстава твораў Нінель Іванаўны. Яе творы — гэта яе жыццяпіс, вобразы роднай Беларусі, аблічча дарагіх людзей, песня харастру навакольнага свету, гімн жанчыне.

На адкрыццё выставы прыйшло шмат прыхільнікаў таленту Нінель Шчаснай. Гучалі ўзнёслыя словы, дарыліся кветкі — і ўсё было шчыра, ад усяго сэрца. Святочную імпрэзу вёў дырэктар мастацкай галерэі БДУ культуры Фёдар Ястраб.

*НА ЗДЫМКУ: мастачку віншуе мэр Полацка.*

# АДАМУ СНЯЦЦА СНЫ АБ БЕЛАРУСІ

*(Заканчэнне. Пачатак на стар. 1)*

***Нават дзіўна, што тут на скрыжаванні Нямігі і Гарадскога Вала дагэтуль не паставілі якога-небудзь мемарыяльнага знаку. Як бы то не было, але зараз выглядае, нібыта гэтая кропка дзесяцігоддзямі заставалася не занятаю, бо чакала Паэта. І вось ён прыйшоў. Гэты падарунак гораду і краіне зрабілі скульптары Андрэй Заспіцкі і Аляксандр Фінскі, архітэктар Рыгор Фёдараў.***

***Гэта падзея мела рэзананс і за межамі нашай краіны. Найперш, у Польшчы. Цікава, што палякі лічаць гэты помнік знакам польскай прысутнасці ў Беларусі, а беларусы пра гэта і не здагадваюцца, бо ставілі помнік не замежнаму, а свайму паэту. Творцу, які ўвёў Беларусь пад імем "Літва" ў сусветную літаратуру, у сусветны культурніцкі працэс. Але галоўнае, што і беларусы, і палякі задаволеныя.***

***Госці з-за Буга гаварылі аўтарам помніка, што былі прыемна здзіўлены тым, што пабачылі. Бо знаёмыя з беларускай манументальнай пластыкаю зблошага па ўзорах "сацрэалізму", баяліся, што такім будзе і наш Міцкевіч. А помнік, дзякуй Богу і аўтарам, па словах гасцей аказаўся "вельмі еўрапейскім".***

***З Аляксандрам Фінскім нават ішла размова аб магчымасці пабудовы ў Мінску помнікаў і іншым гістарычным асобам, у роўнай ступені блізкім і беларусам, і палякам. Першым называлася імя Тадэвуша Касцюшкі.***

***Неяк, даволі даўно, у нейкай кнізе пра Лацінскую Амерыку, я патрапіў на цікавы факт. У сталіцы адной з краін гэтага рэгіёна ёсць помнік нацыянальнаму паэту, вершы якога захоўвалі сваю палітычную актуальнасць і праз сто год пасля яго смерці, інакш кажучы — усё бурлівае XX стагоддзе.***

***Дык вось гэты помнік пасля ваенных пераваротаў звозілі з цэнтра на ўскраіну, а пры аднаўленні дэмакратыі зноў вярталі ў цэнтр. Але, дзе б ён ні стаяў, вакол яго, як вакол вогнішча, збіраліся людзі, стыхійна ствараўся культурніцкі асяродак.***

***Аўтар нататкаў, сам паэт, з гэтай нагоды адзначыў: "Пасунуць з цэнтра, браце, нас не цяжка, але дзе б мы не сталі — там і цэнтр".***

***Помнік нашаму Паэту асвеціць якую заўгодна мясціну — Чыжоўку, Серабранку, чыстае поле. Але тое, што ён стаіць у цэнтры горада — знак нашай пашаны да яго асобы, яго творчасці. Гэта ўсведамленне важнасці для нашай культуры заходняга вектара.***

**Пётра ВАСІЛЕЎСКІ**

КАНТАКТЫ

# БРАЦКІЯ СУВЯЗІ



***На мінулым тыдні нашу рэспубліку наведала група расійскіх пісьменнікаў, у тым ліку — Аляксандр СЕГЕНЬ, Мікалай КАНЯЕЎ, Сяргей КАЦЬКАЛА, Сяргей КУЛІЧКІН, Аляксандр КАРЛУКОЎ.***

Госці з Расіі пазнаёміліся з жыццём нашай рэспублікі, наведалі Брэсцкую крэпасць, Жыровіцкі манастыр. 25-га кастрычніка адбылася сустрэча з пісьменнікамі, сябрамі Мінскай пісьменніцкай арганізацыі, на чале з яе старшынёй Паўлам Враб'ёвым. Падчас сустрэчы былі абмеркаваны пытанні ўзаемаадносін нашых літаратур, аднаўленне літаратурных традыцый, а таксама размова вялася аб сумеснай выдавецкай дзейнасці, і падрыхтоўцы сумесных нумароў літаратурных часопісаў.

Апоўдні ў той жа дзень пісьменнікі наведалі мемарыяльны комплекс "Хатынь", дзе ўсклалі кветкі ахвярам Вялікай Айчыннай вайны. Акрамя названых пісьменнікаў у мерапрыемствах бралі ўдзел Таіса Бондар, Віктар Праўдзін, Уладзімір Саламаха, Эдуард Скобелеў, Мікалай Чаргінец, а таксама галоўны рэдактар часопіса "Нёман" Ніна Чайка.

Н. К.








НОВАЕ

# ТЭЛЕКАНАЛ «ЛАД» РАСПАЧЫНАЕ...

***18 кастрычніка шмат хто з нас стаў сведкам старту на Беларусі другога нацыянальнага (першага сямейнага) тэлеканала "Лад". Па задуме стваральнікаў, гледачамі новага канала стануць прыхільнікі агульначалавечых каштоўнасцей, якім неабыякавы такія паняцці, як сямейнае шчасце, каханне і павага адзін да другога, згода і цярпенне, адказнасць і гонар за сваю Бацькаўшчыну.***

Творчы калектыў тэлеканала "Лад" распрацаваў спецыяльную канцэпцыю праграм па нацыянальнай спадчыне культуры і мастацтва, па сямейных праблемах і спартыўным жыцці. Шмат часу будзе аддадзена дзецям і падлеткам, якія змогуць пазнаёміцца з шэдэўрамі літаратурнага, анімацыйнага і кінематаграфічнага мастацтва айчыны і замежжа.

За першы тыдзень работы тэлеканала гледачы з задавальненнем пабачылі зноў (ужо ў каторы раз, але не надакучыла) фільмы, з, так званага, "залатога фонду" савецкага кінапракату: "Разіня", "Кубанскія казакі", "Блізняты", "Дзяўчына з характарам" і іншыя. Што ні кажы, а некаторым сучасным рэжысёрам трэба павучыцца, каб здымаць такія стужкі, якія і праз дзесяцігоддзі збіраюць шматлікую аўдыторыю гледачоў.

— Асаблівае месца на тэлеканале будуць займаць стужкі для дзяцей, — адзначыў на прэс-канферэнцыі галоўны дырэктар дырэкцыі ліцэнзійных праграм і кінапаказу Канстанцін Враб'ёў. — Гэта мастацкія фільмы айчыннай вытворчасці, фільмы-казкі еўрапейскіх кінематаграфістаў, іншыя шматсерыйныя кіналенты і анімацыйныя карціны.

Увазе гледачоў будзе прадстаўлена дакументальнае кіно, створанае на студыі "Летапіс" ("Беларусьфільм") і РУП "Белвідэацэнтр". Увогуле ж, адзін з галоўных прынцыпаў кінапаказу на тэлеканале, гэта адказ ад паказу фільмаў, якія прапагандуюць жорсткасць і агрэсію.

Сярод праграм, напрыклад, "Росчырк часу" будзе знаёміць гледачоў з малавядомымі старонкамі з гісторыі помнікаў культуры і быту.

У праграме "Настальжы" будуць выкарыстаны музычныя запісы мінулых часоў, а з сучасным музычным і тэатральным мастацтвам можна будзе знаёміцца гледзячы праграму "Плошча мастацтва".

Перайшлі з Першага нацыянальнага канала на "Лад" і дзве аўтарскія праграмы Аляксандра Дамарацкага "Свята далёкай зоркі" і Алега Лукашэвіча "Наша спадчына".

Як бачна, фармат сямейнага тэлеканала разлічаны не на гонку за рэйтынгам, а перш за ўсё на выкананне культурапагічных, адукацыйных, выхаваўчых і пазнавальных функцый.

Віктар ПАТАПЕНКА




НАШЫ ВЫДАННІ

# «НЁМАН» № 10

*Иссякнет возле берега дорога,*
*Сгорят костры, да что костры — века.*
*Я слышу твой неукротимый рокот,*
*Плыви, плыви, прозрачная река!..*

Такім філасофскім роздумам-зваротам, нібы позіркам і голасам АДТУЛЬ, паўстае перад чытачамі незабыўная наша паэтэская ластаўка Яўгенія Янішчыц, нізка вершаў якой у перакладзе Таццяны Дашкевіч адкрывае літаратурна-мастацкую частку дзесятага нумара часопіса "Нёман". Дарэчы, нашай слыннай паэтэсе 20 лістапада споўнілася б толькі 55...

У нумары друкуюцца таксама вершы Фелікса Мысліцкага (паэт піша на рускай мове і жыве ў Гомелі) і юбілейная падборка аднаго з нашых старэйшых пісьменнікаў — Алеся Бажко. У рубрыцы "Открытие Поэта" прадстаўлена творчасць мінскай паэтэсы Дэльфіны. А ў рубрыцы "Впервые в "Нёмане" — яшчэ два дэбюты: Лілії Рэўко і Таццяны Лебедзевай (абедзве паэтэсы жывуць у сталіцы).

Проза ў нумары прадстаўлена паперш аповесцю Фёдара Конева "Страстей обитель". У цэнтры ўвагі пісьменніка — сучаснае складанае жыццё, новы час, які выстаўляе людзям свае нечаканыя рахункі, правяраючы іх на трываласць, дзейнасць і годнасць. Друкуецца і аповесць Лідзіі Арабей "Горькие ягоды". Гэты твор — аб нялростым лёсе адзінокай жанчыны, аб яе імкненні наладзіць асабістае жыццё, стаць шчаслівай... З новай тэмай для беларускай літаратуры дэбютуе Уладзімір Зайцаў. Яго аповед "Мгновения войны" прысвечаны гарачым падзеям карэйскай вайны на пачатку 50-х гадоў XX стагоддзя.

У рубрыцы "Время. Миф. Литература" выступае Валерый Грышкавец. Яго цікавыя, жывыя эсэ і нататкі пра пісьменнікаў, палітыкаў, калялітаратурнае жыццё чытаюцца на адным дыханні...

Публіцыстыка на гэты раз прадстаўлена артыкуламі Эдуарда Скобелева "Идеология белорусского государства — вопрос прежде всего практический", Уладзіміра Антонава "Homo sapiens или homo videns?", Уладзіміра Макарава "Консциентальное оружие: вызов нового тысячелетия?"

У рубрыцы "Литературная критика" Валянціна Локун прапануе артыкул "Иван Шамякин: в поиске нравственного идеала". У артыкуле "Алесю Бажко — 85" праз творчасць і жыццёвы шлях юбіляра разважае Яўген Каршукоў. Змешчаны таксама водгук на кнігу Прэзідэнта краіны Аляксандра Лукашэнкі "Исторический выбор Беларуси".

А яшчэ чытачы могуць пазнаёміцца з дагаворам аб творчым супрацоўніцтве, які заключылі ў ліпені гэтага года рэдакцыі часопісаў "Наш современник" (Масква) і "Нёман".

Міхась ПАЗНЯКОЎ

## БЕЛАРУСКІЯ ДРАМАТУРГІ — ЯДНАЙЦЕСЯ!

На базе Беларускага дзяржаўнага інстытута праблем культуры згодна з даручэннем Прэзідэнта створаны Цэнтр беларускай драматургіі.

Асноўныя мэты Цэнтра:

— накапленне і захаванне лепшых узораў сучаснай нацыянальнай драматургіі;

— прапаганда і распаўсюджванне новых п'ес;

— стварэнне спрыяльных умоў для творчасці беларускіх драматургаў і для іх удзелу ў тэатральным працэсе.

Цэнтр прадугледжвае стварэнне базы дадзеных па аўтарах, выданне анатаваных спісаў і зборнікаў, змяшчэнне п'ес у сетцы Інтэрнет ( па дамоўленасці з драматургамі). Цэнтр мяркуе праводзіць прэзентацыі, круглыя сталы, семінары і г.д., штогод абнаўляць базу дадзеных у асноўным з ліку драматургічных матэрыялаў, што набываюцца Міністэрствам культуры (сучасныя беларускія п'есы, інсцэніроўкі, пераклады).

У сферы ўвагі новага структурнага падраздзялення не толькі прафесійныя тэатры, але і аматарскія калектывы рэспублікі, якія часцей і ахвотней узбагачаюць свой рэпертуар творамі нацыянальнай драматургіі. "Садзейнічаць творчай рэалізацыі аўтараў, увесці іх п'есы ў шырокі тэатральны ўжытак — наша асноўная задача", — так лічыць загадчык Цэнтра, пісьменніца Галіна Каржанеўская.

## ДРАМАТУРГІЯ З ЮНАЦКІМ ТВАРАМ

Васемнаццацігадовы студэнт біялагічнага факультэта БДУ Рыгор Цісецкі зусім нядаўна стаў лаўрэатам прэстыжнай нямецкай прэміі "Драма дэ" за аднаактовую трагікамедыю "Нямы паэт".

"П'еса аб трагедыі галоўнага героя — Янкі Купалы, аб складаным стаўленні людзей да яго, аб неразуменні і нежаданні зразумець і пачуць. І што самае крыўднае — гэта непаразуменне выцякае ў некаторы трагізм беларускага народа, увогуле славянскіх народаў", — так пра п'есу гаворыць сам Р. Цісецкі.

Дарэчы, малады беларускі драматург, якім яшчэ створана аднаактовая п'еса "Вадаварот", а таксама некалькі шматактовых, дасылаў свайго "Нямога паэта" на конкурс да юбілею Купалы. Па словах Рыгора, рэакцыя была нечаканая, хлопца абвінавацілі ў непрафесіяналізме, назваўшы яго твор антысацыяльным. І гэта ў той час, калі "Нямы паэт" быў намінантам антыбукераўскай прэміі.

Магчыма, што ў бягучым сезоне адна з п'ес Р. Цісецкага будзе пастаўлена на сцэне Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя М. Горкага. (Дарэчы, сёння творы айчыннай драматургіі ў рэпертуарнай афішы тэатраў складаюць крыху больш за 40 працэнтаў.)

В. Б.

## ПАВАЖАНАЕ СПАДАРСТВА!

Браты і сёстры!

Мы мусім звярнуцца да Вас з прапановай прыняць удзел у адраджэнні нашай беларускай святыні — храма ў гонар Усіх Беларускіх Святых. Царква з такой назвай месцілася ў вёсцы Вялікая Сляпянка (сучасны раён абсерваторыі) на месцы старажытных могілак і была пабудавана шляхціцам Эдуардам Ваньковічам у 1857 г. У 1950-я гады яна была зруйнавана, пазней былі знішчаны і могілкі. Цяпер на месцы былой святыні занядбаная тэрыторыя.

Па благаслаўленні мітрапаліта Філарэта вызначана месца і ўхвалены праект будучага храма. Пры ім плануецца стварэнне беларускага культурна-асветніцкага цэнтра для духоўнага выхавання моладзі, Музея Беларускай святасці. Будуць упарадкаваны былыя могілкі і прылеглая тэрыторыя.

Заклікаем усіх добразычліўцаў да сумеснай працы на карысць нашай Царквы і Бацькаўшчыны.

Нашыя каардынаты: 220004, Мінск, вул. Ракаўская, 2а, тэл./факс (017)206-44-11.
Р/р 3015000000011 у філіі № 510 ААБ "Беларусбанк". г. Мінск, пр. Машэрава, 7, код 63. УНП 101559051
e-mail:vszb@tut.by
www.vsszb.narod.ru

АБШЧЫНА Ў ІМЯ ЎСІХ СВЯТЫХ ЗЯМЛІ БЕЛАРУСКАЙ.

# ФРАНЦУЗЫ — БЕЛАРУСКІЯ ПАРТЫЗАНЫ

Гады бягуць імкліва і аддаляюць нас ад страшнага ліхалецця, якое абрынулася на ўсё чалавецтва — вайны. Набліжаецца 60-годдзе вызвалення Беларусі ад фашысцкай акупацыі і няма ўжо ў жывых дзевяці з кожнай дзесяткі былых абаронцаў Айчыны. Мне, былому партызану, а пасля франтавіку, успамінаюцца баявыя сябры, сярод якіх былі былыя салдаты гітлераўскай арміі — грамадзяне Францыі. У партызанскую брыгаду імя Варашылава № 300 перайшлі 4 французы і сталі беларускімі партызанамі. Вось як гэта адбылося.

Летам 1943 года падрыўнікі брыгады ўсё часцей рабілі дыверсіі на чыгунцы Баранавічы—Мінск. Таму прыбавіліся работы разведчыкам: і пра рух эшалонаў трэба ведаць дакладна, і пра грузы, якія ішлі на фронт, і пра вынікі ўзрываў.

Камандзір аддзялення разведкі атрада імя Катоўскага Сяргей Пецярымаў наладзіў сувязь з жыхаром вёскі Мезенаўка, які працаваў на чыгунцы. Дамовіліся пра тайнік у лесе, дзе чыгуначнік будзе пакідаць звесткі.

У жніўні 1943 года Пецярымаў, Іосіф Чыгір, Яраслаў Брылеўскі, Леанід Новікаў, Сяргей Рагалевіч паехалі ў Мезенаўку. Але ў тайніку запіскі не было. Што рабіць? Відаць было, што чалавек затрымаўся на рабоце. Дарога да Коласава, дзе ён працаваў, ішла лесам. Рашылі ехаць насустрач чыгуначніку, бо на месцы не сядзелася.

Ускочылі хлопцы на коней і памчаліся да чыгуначнай станцыі. Сонца падымалася вышэй, касыя праменні прабіваліся на зямлю. Навокал пераклікаліся птушкі, данёсся гудок паравоза. Коннікі выскачылі з-за павароту дарогі і тут жа схапіліся за зброю: уперадзе, за камлём хвоі, прытаіўся немец.

— Рукі ўгору! — крыкнуў Новікаў, які ехаў першы.

Разведчыкі нацягнулі павады. Коні закруціліся на дарозе, узддзіраючы капытамі груды зямлі. Вочы разведчыкаў свідравалі кусты, рукі сціскалі аўтаматы і вінтоўкі, у галовах бліснулі думкі: засада! Міг, секунда праскочыла, другая... А выстралаў няма. І во радасць! Рукі немца сталі падымацца з вінтоўкай, сам ён нясмела высунуўся з-за дрэва, ступіў пару крокаў. Пасля ён абрадаваўся: убачыў на фуражках чырвоныя ленты і зорачкі.

— Камрад! Таварыш! Камрад! — закрычаў ён і подбегам выскачыў на сярэдзіну дарогі, тут жа агледзеўся, гаварыў штосьці і махаў рукамі камусьці.

З-за кустоў, падняўшы рукі з вінтоўкамі, выйшлі яшчэ трое, далучыліся да першага.

— Масква! Таварыш! Камрад! Парыж! — лепяталі салдаты і так удзячна глядзелі на партызан, усміхаліся, ажыўлена перагаворваліся між сабой, пасля пусціліся ў скокі, не ў сілах стрымаць сваёй радасці. Хлопцы здзівіліся такому нечаканаму бурнаму неўтаймаванаму ўсплёску захаплення: гітлераўцы ж трапілі не ў абдымкі да любімай дзяўчыны, а ў палон.

Сяргей Рагалевіч саскочыў з каня і абяззброіў салдат. Чыгір і Брылеўскі не зводзілі вачэй з кустоў: не папасціся б здуру на варожую мушку. Пецярымаў з трывогай глядзеў на палонных, каб часам не абдурылі партызан гэтыя бязвусыя гітлераўцы, якія ад радасці ўсё яшчэ не маглі супакоіцца. Камандзір сказаў Новікаву і Брылеўскаму, каб ехалі ўперадзе, а сам з астатнімі хлопцамі астаўся ззаду палонных, якія шырокім крокам аддаляліся ад чыгункі. Каля Мезенаўкі павярнулі ў лес, абышлі вёску і выйшлі на дарогу, якая вяла ў Зубрэвічы. Там Новікаў і Брылеўскі чакалі іх з падводай і падводчыкам. На падводу пасадзілі палонных і ў абед былі ў партызанскім лагеры, які ў той час знаходзіўся ў лесе паміж вёскамі Куль і Падсадскія. На ўзлеску адпусцілі падводчыка, павялі палонных у штаб атрада, а пасля ў штаб брыгады, бо ў атрадзе ніхто не разумеў, што гаварылі гітлераўцы, якія паўтаралі толькі: "Парыж! Парыж!"

— Мы здагадаліся, што вы французы, ды па-французску не разумеем нічога, — сказаў камбрыг Васіль Яроменка.

Іосіф Чыгір успомніў, што ў яго роднай вёсцы Падсадскія жыве Лукаш Кароль. Ён у гады імперыялістычнай вайны трапіў у палон і доўгі час жыў у Францыі. Начальнік агентурнай разведкі брыгады Міхаіл Калбасін прапанаваў прывезці селяніна ў атрад. Па яго паехаў Чыгір. Але той сказаў:

— Сюды прывозь сваіх французаў. Здароўя ўжо няма трэсціся па карэннях і калдобістай дарозе.

Пасадзілі палонных на падводу і павезлі ў вёску. За падводай паскакалі конна камандзіры.

Загаварыў з французамі стары селянін, і тыя кулём кінуліся з падводы, падбеглі да перакладчыка, абдымалі яго, нібы роднага бацьку, лепяталі скорагаворкай пра сябе ўсё, што кожны сказаць хацеў партызанам.

— Не трашчыце, як сарокі. Па чарзе, калі ласка, — супакоіў іх Лукаш. — Я ж не разумею ўсяго. Памалу гаварыце, па адным.

Доўга працягвалася гэтая гаворка. Стары перапытваў па некалькі разоў, задаваў пытанні, якія цікавілі партызан, пакуль Калбасін не даведаўся пра палонных усяго, што змог зразумець Лукаш Кароль — ён многа слоў забыў за трыццаць гадоў з часу свайго палону.

Партызанам стала зразумела, што гэтых французаў фашысты мабілізавалі па татальнай мабілізацыі пасля Сталінградскай бітвы. Адзін з іх, Альфрэд Стрэйт, нарадзіўся ў 1925 годзе. Калі бралі яго ў армію, сказаў бацьку, што ваяваць за фашысцкую Германію не будзе, а ўцячэ ў партызаны. Такой жа думкі былі і яго тры сябры. Іх прывезлі ў Баранавічы, адтуль яны трапілі ў Коласава ахоўваць чыгунку. Гэтыя чатыры салдаты ноччу патрулявалі ўчастак дарогі ля Мезенаўкі. Раніцай яны ўцяклі і шукалі ў лесе партызан. Вось чаму так абрадаваліся, як убачылі разведчыкаў.

Падзякавалі партызаны перакладчыку за дапамогу і прапанавалі французам ехаць у лагер. Замахалі тыя рукамі, падбеглі да Лукаша, сталі прасіць, каб дазволіў застацца ў яго. Называлі старога бацькам, пазіралі так умольна, што разжаліўся селянін.

— Хай пажывуць у мяне, пакуль навучацца гаварыць трохі па-нашаму, — сказаў селянін камбрыгу.

— Іх жа пераадзець трэба, каб не палохалі людзей сваёй нямецкай формай, — напомніў камісар атрада імя Катоўскага Якаў Курушын.

— Знайду што-небудзь, — паабяцаў селянін.

— Яды хопіць? — запытаў камбрыг Яроменка.

— Бульба ёсць, агуркі, капуста. З голаду не паўміраюць.

— Паможам і пракорміць, і пераадзець, — сказала Лукашова суседка.

— Мабыць, маткі па іх слёзы праліваюць, такія маладзенькія яшчэ.

— Хай застаюцца тады, — дазволіў камбрыг.

Да вечара ён прыслаў у вёску ўзвод партызан. Яны выставілі пасты вакол Падсадскіх, каб часам немцы ці паліцаі не наскочылі нечакана ў вёску і не захапілі перабежчыкаў — ім, вядома, пагражаў бы расстрэл ці шыбеніца.

Больш тыдня жылі французы ў селяніна. Партызаны заходзілі да іх, размаўлялі з імі, вучылі разумець нашу гаворку. Пра дапамозе перакладчыка яны з кожным днём усё лепш разумелі гаворку партызан. Неўзабаве іх узялі ў атрад, вярнулі зброю. Французы прынялі партызанскую клятву — сталі беларускімі партызанамі. Разам з партызанамі французы хадзілі на баявыя аперацыі, дзялілі з беларусамі нягоды ляснога жыцця. Асабліва запомнілася французам "рэйкавая вайна".

— Падабаецца такі "феерверк"? — запытаў Іосіф Чыгір.

— Харашо-о! — засмяяўся Альфрэд Стрэйт.

Не ведаў тады Альфрэд, што пасля таго, як ён з сябрамі ўцякалі з паста, немцы арыштавалі бацьку і дапытвалі, дзе сын дзеўся.

— Я ж вам у армію яго аддаў. Гэта вы скажыце мне, дзе ён.

Нічога не даведаўшыся, бацьку праз некаторы час выпусцілі з турмы. Бацька ж здагадаўся, што сын зрабіў так, як гаварыў яму: уцёк у партызаны. З надзеяй чакаў бацька канца вайны, весточкі з далёкай Беларусі, адкуль атрымаў апошняе пісьмо ад сына.

Вайна яшчэ працягвалася цэлы год для французаў. Партызаны правoдзілі шматлікія баявыя аперацыі супраць акупантаў. Адзін з французаў загінуў у баі з фашыстамі. Трое дачакаліся ў ліпені 1944 года Чырвонай Арміі. Іх у армію не ўзялі. Да канца вайны яны жылі ў раённым цэнтры Узда, працавалі хто на лесапільні, хто на цагельным заводзе.

У 1945 годзе вярнуліся французы ў Францыю. Альфрэд Стрэйт вярнуўся дадому не адзін — прывёз жонку, сінявокую беларускую дзяўчыну, якая палюбіла невысокага стройнага француза.

Праз некалькі год прыязджаў Альфрэд ва Узду, наведаў вёску Падсадскія, якую лічыў сваёй другой Радзімай, усклаў з былымі партызанамі кветкі на магілу свайго баявога сябра француза, сустракаўся з Іосіфам Чыгіром, Яраславам Брылеўскім, Якавам Курушыным і заўжды захапляўся смеласцю і вытрымкай беларускіх партызан, якія не стралялі, убачыўшы перад сабой салдат у нямецкай форме — сваіх ворагаў, а з рызыкай для жыцця ўзялі іх у палон. (Не ведалі ж тады партызаны, што перад імі перабежчыкі, французскія юнакі.)



У 1967 годзе з далёкай Францыі прыязджаў на Уздзеншчыну разам з Альфрэдам яго бацька, прывёз беларускім хлопцам беларускай зямлі, былым партызанам, сям'і Лукаша Караля і яго земляка вялікую падзяку, што выратавалі ад смерці яго сына. У сваім сэрцы павёз дадому стары француз бязмерную падзяку нашым людзям, нашым лясам і палям. І да канца сваіх дзён будзе радавацца сівы французскі дзядуля, што яго ўнукі — гэта дзеці беларускай і французскай зямлі, што шчасце прыносіць людзям і народам вялікая дружба.

Вялікая дружба патрыётаў многіх краін дапамагала перамагчы агульнага ворага, які марыў аб сусветным панаванні. Праходзяць дзесяцігоддзі, але зноў і зноў з'яўляюцца на свеце ўсё новыя ліхадзеі, ахвотнікі да чужога багацця, мараць аб заняволенні незалежных краін, прыносяць мірным людзям незалежных дзяржаў незалечныя раны і шматлікія беды. Дружба і намаганні ўсіх прагрэсіўных сіл планеты змогуць спыніць авантурыстаў "найновага парадку" і захаваць мір на зямлі без войнаў і ліхалецця, каб шчасліва жылі нашчадкі беларускіх, французскіх і іншых народаў. Дружба пераможа!

**Васіль ГУРСКІ,**
**былы партызан і франтавік Вялікай Айчыннай вайны,**
**в. Стальбоўшчына**

# У ВОДСВЕЦЕ СВЯШЧЭННАГА АГНЮ

Каб ацаніць ролю пісьменства ў жыцці кожнага чалавека, мала сказаць адно слова. Тут трэба напісаць цэлыя тамы, і то да канца не ўдасца раскрыць характарыстыку гэтай з'явы. У мяне вельмі простае параўнанне. Мне здаецца, калі б я не ўмела пісаць і чытаць і многа б не знала, што знаю, навучыўшыся гэта рабіць, то ў маіх вачах стаяла б вечная цемра, як самай цёмнай восеньскай ноччу. Дзякаваць Богу, гэтага не здарылася. І я вечна цешуся дарам лёсу быць адукаванай. Так адчуваюць сябе, напэўна, і іншыя людзі, якія маюць магчымасць чытаць любыя кніжкі, разумець думкі вялікіх людзей мінулага і сучаснасці.

Па волі кіраўніцтва нашай краіны, што супадае з пажаданнем яе насельнікаў, у Беларусі ўжо дзесяць разоў праводзілася Свята пісьменства, яго ўшанаванне. Як вядома, у гэтым годзе яно праходзіла ў старажытным Полацку. Мяркуючы па водгуках удзельнікаў, свята прайшло цудоўна, цікава і прыгожа, змястоўна і запамінальна. Аб гэтым пісалася ў перыядычным друку, штосьці можна было пачуць па радыё, убачыць па тэлевізары. Несумненна, усім хацелася там пабыць, але ж гэта нерэальна. Не вельмі многа людзей з нашага горада Паставы пабывала ў Полацку на свяце пісьменства, але наш горад і яго жыхары далучыліся да гэтай падзеі іншым чынам.

У Паставах пачыналася экспедыцыя сталічнай інтэлігенцыі і духавенства са Свяшчэнным Агнём з Іерусаліма па паўночна-заходніх раёнах Віцебскай вобласці: Паставы, Глыбокае, Шаркаўшчына, Міёры, Браслаў, Верхнядзвінск і заканчвалася ў Полацку. Экспедыцыя заходзіла і ў іншыя населеныя пункты, дзе ёсць цэрквы, напрыклад, Варапаева, Іказнь і іншыя.

Трэба было бачыць, з якой радасцю сустракалі пастаўчане аўтобус, на якім прыехалі ўдзельнікі экспедыцыі з Мінска. Экспедыцыю сустракалі прадстаўнікі раённай улады, свяшчэннік айцец Сяргей і вельмі многа простых людзей, што прыйшлі па заклiку сэрца. У пачатку горада адбыўся кароткі мітынг-вітанне гасцей, а потым усе людзі ўслед за Свяшчэнным Агнём і святым абразом, які неслі з царкоўнымі песнямі прыхільнікі праваслаўя, ішлі праз увесь горад да царквы Святога Мікалая. Там адбыўся малебен. Усе пастаўчане, хто таго пажадаў, запальвалі свечкі ад лампадкі, у якой дрыжэла полымя Свяшчэннага Агню, і, як маглі, стараліся данесці гэты агонь да свайго жытла, каб забяспечыць яго аховай ад усяго дрэннага і злога. Многім удалося данесці кропельку святыні да сваіх абразоў і захаваць яе надоўга. А хто не данёс у руках агонь, той назаўсёды захаваў яго водсвет у душы, і ён будзе асвятляць далейшы шлях гэтых людзей да канца іх дзён.

Вялікае ўражанне на мяне і маіх землякоў зрабіла свецкая праграма экспедыцыі, калі сустрэча працягвалася ў раённым Доме культуры. Усе месцы ў глядзельнай зале былі занятыя, многім прыйшлося стаяць. Усе людзі з вялікай цікавасцю слухалі выступленні кіраўніка экспедыцыі пісьменніцы і паэткі Ніны Загорскай, навукоўцаў, што прысвяцілі сваё жыццё беларускай мове і літаратуры. З вялікай радасцю сустрэлася я са знаёмым мне па Усебеларускіх фестывалях гумару ў Аўцюках цудоўным беларускім пісьменнікам Уладзімірам Ліпскім, з задавальненнем пазнаёмілася з Браніславам Спрынчанам, Таісай Бондар, Сцяпанам Лаўшуком, Васілём Жуковічам, Марыяй Карпенкай і з іншымі знакамітымі людзьмі. Я ніколі раней гэтых літаратараў не бачыла. Як зайшлі яны ў залу, не ведала, на каго глядзець, а слухала ўсіх вельмі ўважліва, каб не прапусціць ніводнага слова.

Раней я не раз чула такое пытанне: "А вам Марыя Захарэвіч не радня?" У адказ я толькі ўздыхала: на вялікі жаль, не, бо прозвішча майго бацькі Лашук, а Захарэвіч — прозвішча мужа. І ён ёй не радня, а вось жылі яны ў вёсках на адлегласці адзін ад аднаго кіламетраў каля дзесяці, а я ўдвая далей, але ўсё гэта ў Мядзельскім раёне. Яна скончыла Мядзельскую СШ, а на наступны год я стала працаваць настаўніцай матэматыкі ў гэтай школе. Я яе, канечне, бачыла на мядзельскіх вуліцах, калі яна была студэнткай, і пасля, калі яна была на вяршыні свайго жаночага, тэатральнага росквіту, прыгожая, элегантная хадзіла па раённым цэнтры ў час адпачынку, бачыла яе на сцэне Купалаўскага тэатра ў Мінску, а вось размаўляць не давялося. А я ўсё думала: "Ну, прыйдзе той час, калі мы з ёй сустрэнемся". І вось ён прыйшоў. Тут я ўжо не стала марудзіць і сама падышла, для знаёмства падаравала ёй свае зборнікі вершаў "Бэзавы цвет" і "Жніveнькі вецер". Яна крышачку маладзей за мяне, гадоў на пару, але што яны цяпер ужо значаць, мы з першых слоў перайшлі на "ты" і сталі размаўляць, як даўно знаёмыя, а то і больш таго, як родныя. А што? Адна нарачанская старонка нас нарадзіла, гадавала і выхоўвала. А ў сталыя гады, ох, як гэта важна зразумець!

Марыя Георгіеўна на сустрэчы ў клубе прачытала верш з маёй кніжачкі пра родную мову, і гэта па яе прапанове далі мне магчымасць выступіць са сваім паэтычным словам перад такімі высокімі гасцьмі.

Ці трэба казаць, што я вельмі моцна хвалявалася. Я ж не была гатова да таго, што мне прыйдзецца "паказаць" сябе. Але вялікая ўрачыстасць падзеі, захапленне ад сустрэчы з такімі знакамітымі людзьмі, а яшчэ шчыра цёплы пагляд Таісы Бондар падбадзёрылі мяне і, мне здаецца, удалося перадаць словамі свае пачуцці.

Лічу сябе шчаслівай, што ў той дзень 4 верасня 2003 г. мне ўдалося душой далучыцца да тых людзей, што неслі Свяшчэнны Агонь у старажытны Полацк, паслухаць іх таленавітыя творы, убачыць іх адухоўленыя твары. Усё гэта надоўга развеяла хмары майго шэрага паўсядзённага немаладога жыцця, натхніла часцей брацць пяро ў рукі, каб скарыстаць даброты ад пісьменства, што прыйшло нам ад нашых таленавітых, кемлівых, працалюбівых продкаў — славян.

**Ніна ЗАХАРЭВІЧ**
**г. Паставы**






# літаратурны квартал

**Хутка — 5 снежня — спаўняецца год ад першага арганізацыйнага пасяджэння маладых пісьменнікаў у рэдакцыі газеты "Літаратура і мастацтва", з якога і пачалася праца "Літаратурнага квартала". За гэты час былі і пасяджэнні, і сумесныя вандроўкі, і выступленні. Нават улетку, у час адпачынкаў, маладыя творцы на чале з кіраўніком суполкі Людмілай Рублеўскай і галоўным рэдактарам "ЛіМа" Віктарам Шніпам працягвалі рухацца па дарозе на Парнас, збочваючы час ад часу на Лысую гару.**

**Як вынік творчай працы — толькі што пабачыў свет зборнік твораў сяброў суполкі, які так і называецца "Літаратурны квартал". Зборнік выйшаў пры падтрымцы фірмы "БелПі" і вядомага пісьменніка, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі Леаніда Дайнекі.**

**23 кастрычніка адбылося традыцыйнае абмеркаванне творчасці аднаго з сяброў суполкі Ігара Клепікава. Абмеркаванне, як заўсёды, было дыскусійным, адным, напрыклад, падабалася засяроджаная лірычнасць вершаў Ігара, другія бачылі ў гэтым недахоп "паэтычнай энергетыкі". Камусьці не ставала ў прапанаванай для абмеркавання падборцы гумарыстычных вершаў, камусьці не падабаліся "зацяганыя" рыфмы. Але ўсе пагадзіліся, што Ігар Клепікаў — цікавы, арыгінальны паэт, чыя творчасць заслугоўвае чытацкай увагі. Дарэчы, усе прысутныя высока ацанілі надаўнюю публікацыю Ігара ў часопісе "Полымя".**

**У абмеркаванні бралі ўдзел Аксана Бязлепкіна, Сяргей Патаранскі, Андрэй Ключнікаў, Усевалад Гарачка, Наталля Бурдзейка, Таццяна Барысюк, Аксана Спрынчан, Сяргей Здаранкоў, Таццяна Вабішчэвіч, Юлія Новік, Таццяна Будовіч, Рагнед Малахоўскі, Віктар Іваноў, Ягор Конеў, Наталля Кучмель, Наталля Капа, Юрась Нераток, Ганна Бесан. У пасяджэнні "квартала" таксама браў удзел выпускнік Літінстытута імя Максіма Горкага Дзяніс Летуноўскі, якому спадабалася літаратурная вучоба кварталаўцаў. У Літінстытуце гэтыя "разборкі" адбываюцца таксама жорстка, і нават з большай жорсткасцю, чым на "квартале", не кожны вытрымлівае такі іспыт. Некаторыя нават сыходзяць з інстытута пасля "сяброўскай крытыкі". Але той, хто вытрымаў, не зламаўся, застаўся — мае шанс застацца і ў літаратуры.**

**Пасяджэнне скончылася традыцыйным чытаннем вершаў і вызначэннем "хіт-параду" — трох лепшых твораў з пачутага.**

**"Літаратурны квартал" збіраецца кожны чацвер а 18 гадзіне ў памяшканні рэдакцыі газеты "Літаратура і мастацтва".**

**Н.К.**



# АДАМЧЫКАВА ЛЕТАЗЛІЧЭННЕ

Здавалася б, што Вячаслаў Адамчык ужо даўно завяршыў сваю эпапею заходнебеларускага жыцця (апошні раман гэтай тэтралогіі выйшаў у 1990 годзе). Дый з завяршэннем уласнага жыццёвага лёсу ён не забавіўся. Мажліва палічыў, што асноўная, наканаваная яму звыш, літаратурная місія споўнена ім даастатку...

Аднак жа, як цяпер выяўляецца, ён настолькі жыва ўпісаны ў наш час, што я ледзь не "прамаргаў" яго чарговы юбілей, бо ў беларускамоўным перакідным календары 2003 года, які на маім стале, гэтая дата чамусьці не пазначана. Аказваецца "старому" Адамчыку семдзесят?!

Было б, з сумам дадам.

Хоць можна паразважаць і пра тое, а што было б, калі б ён сёння быў сярод нас...

Але пачакаем. Няхай адстаіцца ўсё сутнаснае ў скаламучаным ставе нашага неадназначнага часу. У тым ліку і ў літаратуры. Бо, як тое ні дзіўна, у сённяшнім чытацкім асяроддзі складваецца ўражанне актыўнай творчай дзейнасці пісьменніка — з лета амаль ва ўсіх перыядычных выданнях бесперапынна друкуюцца яго "дзённікі". Неадназначныя своеасаблівым поглядам на грамадскае і літаратурнае жыццё, а таксама спрэчнымі характарыстыкамі і партрэтамі сучасных беларускіх літаратараў, — яны выклікаюць хваравітую рэакцыю ў яшчэ, даў Бог, жывых яго колішніх сяброў і калегаў. Падчас справядлівую. Бо, як трапна напісаў у згаданых "дзённіках" сам Вячаслаў Адамчык: *"Рукапісы, як вядома, не гараць. Але з імі можа лёгка расправіцца (расквітацца) тая ж самая вада, што тушыць агонь".*



Ого, якая метафара ў падтэксце!

І ўсё ж, называючы рэчы сваімі імёнамі, зазначым, што ў нашым пісьменстве яшчэ так шмат *жывучых* літаратурных рамеснікаў і так мала па-сапраўднаму *жывых* майстроў мастацкага слова, з творчасцю якіх можна палемізаваць і спрачацца незалежна ад зместу і часу іх зямнога жыцця і напісаных імі тэкстаў. Вячаслаў Адамчык — адзін з тых, *апошніх*, хто мае быць адным з *першых*.

Толькі з вялікай любові да свайго народа і Айчыны можна было напісаць такое: *"...тысячы леглі ў вечную мерзлату чужое, непрытульнае і сівае, як насталае жалеза, калючае поўначы. І вялікі грэх гэтага не помніць. (...) Мы ж, беларусы, прыгнечаныя і зняволеныя імперыяй, з свайго няўдзячнага сённяшняга намагаемся збудаваць мінулае і (пакарыць) і ўзвесці каркас будучага."*

І я, меланхольны песіміст тэхнаглабальнай эпохі, утапіўшы зенкі ў сівы туман камп'ютэрнага манітора, наастатку прыпамінаю яшчэ адзін яго, пакуль мала кім заўважаны, спрадвечна *жывы* сказ: *"Колькі сшыткаў у шуфлядах майго пісьмовага стала, а для навелы дастаў простыя, вучнёўскі".*

Лежачы на Кальварыі наводдаль Янкі Лучыны, ці сніцца Вам *свая бацькаўшчына,* спадар Адамчык? Ці не нашэптвае Вам пан Неслухоўскі свае першабытныя беларускія вершы:

*Братцы, сястрыцы! — праўды нясыта*
*Маці-Зямліца! Ой! не забыта*
*Роднага слова святая сіла!..*

Чуючы вас абодвух лягчэй жыць...

ЛеГал

ДАНІНА ПАВАГІ

# ПАРТРЭТ ПІСЬМЕННІКА І НАСТАЎНІКА

***29 кастрычніка споўнілася 60 гадоў з дня нараджэння кандыдата філалагічных навук дацэнта кафедры беларускай лінгвістыкі і міфалогіі Беларускага дзяржаўнага універсітэта, сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў Уладзіміра Аляксандравіча НАВУМОВІЧА.***

У савецкі час кожнага юбіляра звычайна называлі яркім прадстаўніком свайго пакалення. Можна было б так гаварыць і сёння, калі б у 90-я гады, ва ўмовах злому грамадскага ладу, змены цывілізацыйнай мадэлі народжанае ў вайну пакаленне выразна не падзялілася на тых, хто, кажучы прагматычна, не адбыўся, і на тых, хто здолеў адгукнуцца на выклік гісторыі. Уладзімір Навумовіч — з апошніх. Ён ніколі не ўхіляўся ад адказнасці перад грамадствам, перад сям'ёй, перад сваёй працай, ён захаваў у сабе сілы адказаць на запатрабаванні новага часу.

Нарадзіўся Уладзімір Навумовіч на Гродзеншчыне (Карэліцкі раён) у сям'і вясковай настаўніцы, у сям'і, дзе высакародная педагагічная прафесія стала родавай і перадаецца ў пакаленнях: дзядзькі, сястра, пляменнік юбіляра — настаўнікі. Бацька — удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. У дакументальнай аповесці "Бацькаў сад" пісьменнік распавядае пра шляхі-дарогі бацькоўскага партызанства — у адным атрадзе з Янкам Брылём і Уладзімірам Калеснікам (апошні быў камісарам атрада), пра ўдзел бацькі ў вызваленні Венгрыі, Югаславіі, Аўстрыі.

У 1966 г. Уладзімір Навумовіч закончыў філалагічны факультэт БДУ, настаўнічаў, пэўны час знаходзіўся на камсамольскай рабоце. Адчуваючы ў сабе творчыя здольнасці, паступіў у аспірантуру на кафедру беларускай літаратуры БДУ. Караўнік яго дысертацыйнай працы — вялікі генератар літаратуразнаўчых ідэй прафесар Алег Лойка — і Настаўнік Уладзіміру Аляксандравічу, і сябра. У 1974 г. Навумовіч паспяхова абараніў кандыдацкую дысертацыю па тэме "Проза "Маладняка". Чытаючы сёння яго манаграфію "Шляхамі арлянят", створаную паводле дысертацыі, бачыш пралікі, абумоўленыя не слабым прафесіяналізмам, а выключна ідэалагічнымі патрабаваннямі таго часу, якія, натуральна, немагчыма было абысці ў навуковым выданні. Але ў цэлым кніга захавала сваю тэарэтычную, інфармацыйную значнасць. Больш грунтоўнага даследавання, прысвечанага надзвычай цікаваму і драматычнаму перыяду нашай літаратурнай гісторыі, у беларускай філалагічнай навуцы няма. Тут упершыню разгледжаны творы многіх з маладнякоўцаў, раней забытых, — як бы вернуты з небыцця. Тут вызначаюцца і асноўныя заканамернасці развіцця беларускай прозы, паказана, як паўплывала дзейнасць "Маладняка" на далейшае развіццё айчыннага прыгожага пісьменства. Аднолькава аб'ектыўна аналізуюцца і станоўчы, і адмоўны — таксама каштоўны для будучага — вопыт маладнякоўцаў. Сапраўды, маладнякоўская парадыгма ў той ці іншай ступені праяўляецца кожны раз з прыходам у літаратуру вялікай генерацыі маладых пісьменнікаў, асабліва ў пераходны гістарычны час — успомнім другую палову 80-х пачатку 90-х гадоў. Вяртанне да вопыту мінулага з вышыні XXI ст. чым далей, тым больш павучальнае: бачыш усю суму нерэалізаваных у творчасці магчымасцяў...

Пасля заканчэння аспірантуры, з кастрычніка 1973 года — трыццаць гадоў, — У. Навумовіч працуе ў Беларускім дзяржаўным універсітэце паслядоўна на пасадах выкладчыка, старшага выкладчыка, дацэнта. У 1973 — 75 гг. Навумовіч выбіраўся сакратаром камітэта камсамола БДУ, а ў 1975 — 78 гг. — намеснікам сакратара парткама універсітэта. Не магу не сказаць — дзеля гістарычнай справядлівасці, — што ў гэты час грамадскае жыццё ва універсітэце бурліла. Асаблівай заідэалагізаванасці не было — яна, ва ўсялякім разе, не вылазіла, але грамадскую, ды нават і проста фізічную актыўнасць моладзі кіраўніцтва камсамольскай арганізацыі БДУ плённа скіравала ў практычны бок — якраз на той перыяд прыходзіцца росквіт студэнцкіх будаўнічых атрадаў. Маладыя людзі, што прайшлі загартоўку працай у такіх атрадах, у канцы 80-х пабіліся камерсантамі, прадпрымальнікамі, палітычнымі дзеячамі. Пра работу з моладдзю Навумовіч сам добра напісаў у сваіх мастацкіх творах. Так, аповесць "Узаранае поле", надрукаваная ў "Маладосці" ў 1968 г., — пра камсамольскую работу, "якой не відаць", пра камсамольскія будні — нарабіла ў свой час шмат шуму і выклікала бурныя і гарачыя дыскусіі. Кніга прозы "Такое бывае аднойчы" (1982) распавядае пра студэнцкі будаўнічы атрад, пра сяброўства, каханне, юнацкія праблемы.

Уладзімір Навумовіч застаўся верны свайму юнацтву нават у навуковай дзейнасці: у тэарэтычных працах акцэнтуе ўвагу на маральна-этычныя пытанні, на адносіны мужчыны і жанчыны. Здаецца, нямодна — усе вакол перайшлі ў структуралісты, наратывісты, занялісе міфалогіяй і постмадэрнізмам (і аўтар дадзенага артыкула, у тым ліку). Але, па вялікім рахунку, ці не сорамна нам усім займацца фармальнымі праблемамі ў атмасферы катастрафічнай духоўнай дэградацыі моладзі і ўсяго насельніцтва ў цэлым, па сутнасці схавацца ад жыцця?! Мы склалі зброю перад журналістамі, што захапілі не сваю дзялянку, узяліся аналізаваць філасофскія, сацыяльныя і маральна-этычныя праблемы часу — тыя, якімі заўсёды займалася прыгожае пісьменства і, адпаведна, літаратуразнаўства. Асэнсаваць і вывесці адзіны вобраз часу, зразумець, што адбылося з чалавечай душой, падуладна толькі мастацкай літаратуры. Журналістыка пры ўсіх непамерных прэтэнзіях у апошнія пятнаццаць гадоў прадэманстравала свой дэструктыўны, разбуральны характар, бо вынік дзейнасці СМІ усім нам, як гаворыцца, навідавоку. Сцвярджаю з адказнасцю, бо кожны дзень працую ў асяродку сотнямі маладых людзей (прытым, што мы з Навумовічам маем справу з лепшай часткай моладзі — студэнтамі, якіх мы і паважаем, і любім, але не можам не бачыць узроўню іх агульнай культуры, узроўню марапльнасці). У той час, калі ў СМІ ўсё ператвараецца ў карыкатуру, у прымітыў, высмейваецца і прыніжаецца, Уладзімір Навумовіч працягвае гаварыць пра высокае, значнае, вечнае і прыгожае — пра каханне, гераізм, творчасць, духоўны подзвіг. Ён не здраджвае сацыяльным праблемам, грамадзянскасці, што і складаюць, уласна, змест мастацкага твора. І ўмее ж такі дастукацца да маладых сэрцаў, адкрывае ім вочы, вучыць бачыць галоўнае і значнае, аналізаваць псіхалогію літаратурных персанажаў, а значыць, у рэшце рэшт, лепш разумець людзей, жыццё. Універсітэт дзякуючы такім выкладчыкам робіцца ледзь не адзіным астраўком высокай духоўнасці сярод — няхай не пошасці, але — прагматызму, меркантылізму, бяздушнасці. Пісьменнікі ў нас заўсёды былі генератарамі грамадскіх ідэй. Такімі і засталіся. Навумовіч з поспехам змагаецца з бульварнай прэсай за інтэлект і сэрцы маладых людзей.

Творчая энергія Уладзіміра Аляксандравіча заўсёды выклівалася ў рэальныя праекты. У 1989 г. ён узначаліў кафедру беларускай мовы і літаратуры для прыродазнаўчых факультэтаў БДУ. Дзесяць гадоў ён кіраваў кафедрай, якая пазней атрымала назву кафедры беларусазнаўства. Ён сабраў каманду спецыялістаў па фальклоры, мове, літаратуры, сам плённа займаўся пытаннямі мовы, народнай культуры. У гэтыя гады студэнты ўсіх факультэтаў універсітэта мелі магчымасць у курсе лекцый "Беларусазнаўства" атрымаць асноўныя звесткі пра Беларусь. Навумовіч склаў праграму курса, удзельнічаў у стварэнні падручніка, дзе сціслa, коратка, даходліва даваў інфармацыю пра айчыну. А ў сваіх лекцыях ён ствараў мастацкі вобраз краіны, паказваў яе незвычайную прыгажосць, драматызм яе гісторыі, раскрываў асаблівасці нацыянальнай псіхалогіі беларусаў, прасочваў, як яны — гэтыя асаблівасці — праяўляліся ў мастацкай творчасці, у фальклоры, у літаратуры. Ён умеў паказаць, што ў беларускага народа ёсць сваё глыбіннае, таямнічае жыццё. Ён вучыў любіць Беларусь! І лекцыі Навумовіча па беларусазнаўстве карысталіся велізарнай папулярнасцю ў студэнтаў, іх помняць праз многа гадоў.



Ужо чатыры гады курс "Беларусазнаўства" ў БДУ, ды і ў іншых ВНУ, наколькі вядома, не чытаюць. Тлумачэнні аб яго ліквідацыі былі наіўныя і непераканальныя. Маладыя беларусы, маўляў, яшчэ ў школе павінны былі пазнаёміцца з асноўнымі звесткамі пра краіну, а ў ВНУ дастаткова "Гісторыі Беларусі". Але ж па-за межамі апошняй дысцыпліны застаецца каласальны пласт інтэгральнай інфармацыі, кроўна неабходнай для выхавання патрыятычных пачуццяў, экалагічнай свядомасці: прырода Беларусі, міфалогія, этнаграфія, этнапсіхалогія, фальклор, мастацтва. Дарэчы, якраз тое, што выклікае найбольшую цікавасць у маладых людзей. Мы не праводзілі спецыяльнае апытанне, але ў працэсе выкладання кафедральных дысцыплін прыходзіцца пастаянна сутыкацца з катастрафічным няведаннем студэнтамі самых элементарных звестак пра сваю краіну — пра іншыя ведаюць намнога больш. Але ці можна іх за гэта вініць? А вось у Маскве існуе нават курс "Масквазнаўства", у Кіеве — "Кіевазнаўства", не кажучы ўжо пра адпаведныя краіназнаўствы.



У 1990 — 94 гг. па ініцыятыве У. Навумовіча была ўтворана Міжнародная школа беларускай мовы, літаратуры і культуры пры БДУ, слухачамі якой сталі вучоныя-славісты з Аўстрыі, Бельгіі, Вялікабрытаніі, Германіі, ЗША, Егіпта, Італіі, Канады, Македоніі, Польшчы, Расіі, Украіны, Чэхіі, Францыі, Швейцарыі, Японіі. Дзякуючы працы школы ў некаторых краінах свету

ўтварыліся культурна-асветніцкія і навучальныя цэнтры па вывучэнні мовы, літаратуры і культуры Беларусі. Сам Навумовіч таксама шмат паездзіў па краінах Еўропы на моўныя семінары, усюды прапагандуючы родную мову і культуру.

За час сваёй працы Уладзімір Аляксандравіч выкладаў амаль на ўсіх факультэтах універсітэта. Ён і сёння, акрамя асноўных курсаў "Беларуская мова" і "Гісторыя беларускай літаратуры", чытае спецкурсы "Нацыянальныя меншасці на Беларусі" і "Беларуская дыяспара" на філалагічным, біялагічным факультэтах, факультэце філасофіі і сацыяльных навук. Студэнты вельмі любяць лекцыі Навумовіча: ён умее заваяваць аўдыторыю, выдатна валодае словам. А галоўнае — ён эмацыянальны, выкладае з фантазіяй, з агеньчыкам, з гумарам. У час, калі душы патухлі, кроў астыла, розум абляніўся, і многія выкладчыкі з лянцою ледзь прагаворваюць скрозь зубы свае лекцыі, прафесійная актыўнасць, захопленасць прадметам Навумовіча не можа не заражаць. Ён па сваёй чалавечай натуры — таленавіты, а з гэтай таленавітасці ўжо вынікае таленавітасць і мастакоўская, навуковая здольнасці.

Тут набытак юбіляра таксама значны. Акрамя згаданых мастацкіх твораў (былі і дзіцячыя), напісаны цыклы апавяданняў. Адно з апавяданняў — "Попел на сэрцы" — надрукаваў рускі часопіс "Смена", надзвычай папулярны ў 80-я гады, з мільённымі тыражамі; шэраг твораў з'явіліся ў "Беларусі", у "Маладосці", у літаратурна-мастацкім і навукова-папулярным часопісе "Пегас", што выдае Інстытут сучасных ведаў. Паказальна, што чатыры апавяданні ўзяў у перакладзе на ўкраінскую мову (Галіны Вігурскай) кіеўскі часопіс "Сузір'е" (1972). Чым маглі зацікавіць суседнюю краіну творы яшчэ маладога пісьменніка? Перш за ўсё, глыбокім веданнем сучаснасці. Ён валодае чуццём першаснага тэксту жыцця і яго глыбіннай містыкі, валодае той народнасцю, якой часам не стае сучасным модным аўтарам. Ад пісьменніка можа быць толькі адна карысць — узрошчванне ў чалавеку высокіх чалавечых і грамадзянскіх пачаткаў. А гэтыя каштоўнасці нічога агульнага з рынкам не маюць...

Сярод навуковых твораў, акрамя названай кнігі "Шляхамі арлянят", якую варта было б перавыдаць, неабходна назваць яшчэ адну манаграфію — "Нравственный облик героя в белорусской художественной прозе 60 — 80-х гг.XX века». Навумовіч — аўтар вучэбнага дапаможніка "Беларуская літаратура" для сярэдніх спецыяльных і прафесійна-тэхнічных вучэбных устаноў, сааўтар хрэстаматыі "Беларуская літаратура 20-х гг. Проза", што выйшла двума выданнямі; складальнік трох зборнікаў навуковых прац: "Творчая спадчына Янкі Купалы і Якуба Коласа і развіццё славянскіх моў і літаратур", "Творчая і метадычная спадчына Якуба Коласа", "Якуб Колас: праблемы вышэйшай і сярэдняй школы". Усе названыя кнігі, што выйшлі за апошнія дваццаць гадоў, атрымалі добрыя водгукі ў друку, у настаўнікаў і выкладчыкаў. У Навумовіча каля 150 навуковых публікацый — аглядаў, артыкулаў, рэцэнзій. Ён — палкі прапагандыст беларускай літаратуры. Любімыя пісьменнікі — Максім Танк, Янка Брыль, Вячаслаў Адамчык, Янка Сіпакоў.

Тое, што пісьменнік апошнім часам друкуе мала мастацкіх твораў — заканамерна. Літаратура на мяжы стагоддзяў аказалася не гатовая да цэласнага бачання свету, а добраахвотна і нават залішне паспешліва ўзяла на сябе ролю суботняга прылажэння да газет, тэлебачання, Інтэрнету, палітычных партый. Вось чаму пісьменнік Навумовіч заглыбіўся ў навуку: у ёй сёння можна быць шчырым. Недзе, магчыма, жыла крыўда, што літаратура сёння згубіла належнае ёй месца, што слова ў краіне стала такім танным. Але ён працаваў (як гавораць, у стол), і працаваў шмат. Можна спадзявацца, што хутка з'явяцца новыя творы Уладзіміра Навумовіча.

Юбіляр застаецца актыўным грамадскім дзеячам, можна нават сказаць, што яго заклапочанасць грамадскімі справамі, энергія ўзраслі. Ён з'яўляецца членам прафсаюзнага камітэта выкладчыкаў і супрацоўнікаў БДУ. Ён ужо даўно сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў, член прыёмнай камісіі нашага саюза, член рэвізійнай камісіі Беларускага літаратурнага фонду. Уваходзіць у згуртаванне "Беларусь — Украіна"; цесна супрацоўнічае па праблемах культурных узаемасувязяў і беларускай дыяспары з Нацыянальным навукова-асветніцкім цэнтрам імя Ф.Скарыны. З'яўляўся членам аргкамітэтаў па правядзенні шматлікіх навуковых канферэнцый, круглых сталоў, чытанняў, членам вучоных саветаў.

У жыцці Уладзімір Аляксандравіч — заўсёды чалавек вясёлы, жартаўлівы, дапытлівы. Ён — у творчай хадзе, у дарозе, у маладой няўрымслівасці, але ўжо загартаваны жыццёвым вопытам і вялікімі ведамі.

**Таццяна ШАМЯКІНА,**
**доктар філалагічных навук**

**ВАРУНКІ**

# ПЕРАДУМОВА ТВОРЧАСЦІ

**"У якім *стане хто* пакліканы, браты, у тым кожны няхай і застаецца перад Богам."**
**(з "Першага пасланьня да Карынфянаў Сьвятога Апостала Паўла")**

Апошнім часам пачала "заядаць" мараль: адолелі душэўныя сумненні, скруха і незадаволенасць сабою... Недзе не так жыву, нешта не так пішу... І вылезці "чыстым" з гэтай псіхалагічнай ямы ўсё ніяк не ўдаецца. Не хапае ні фізічных сілаў, ні духоўнай моцы.

Дый сама атмасфера не заўсёды творчая... Натуральным чынам задыхаешся жыць...

У такім выпадку, мабыць, для творчага чалавека найлепшы паратунак — схавацца ад гэтага свету ў іншым — мастацкім — свеце, ствараючы яго альбо спрабуючы ўжыцца ў чужы, ужо да цябе некім створаны...

Кніжка — вось той адзіны сябра, які ніколі не здрадзіць і не пераменіцца да цябе, пакуль ты сам з пэўнай прычыны не схаваеш тое сяброўства ад свайго ўласнага і ад людскога вока ў самы дальні закутак сваёй хатняй бібліятэкі. Дзякаваць Богу, такое здараецца рэдка, бо яшчэ да таго як "займець у сяброўства" аўтара той ці іншай кніжкі, ты доўгі час пільна прыглядаешся да яго таленту — "творчага характару, стылю і паводзін". Аднак і тут не абыходзіцца без нечаканак і памылковага выбару. Іншым разам — гэта сапраўднае выяўленне новых мастацкіх адкрыццяў, а падчас — проста гідлівае апісанне ўласна аўтарскіх альбо падгледжаных ці падслуханых таямніц інтымнага чалавечага жыцця. Паэзія *прозы* і проза *паэзіі*. Дарэчы, сёння сярод літаратараў, якія шукаюць "свецкай славы", зрабілася модным у сваіх тэкстах "выварочваць чалавечае нутро вонкі". Не сваё, вядома, бо гэта да нястрымнасці балюча, а чужое і, часцей за ўсё, надуманае. Прэпарыруючы чалавека ў вобразе не духоўнай, а жывёльнай істоты, яны ўпарта шукаюць несмяротную душу ў яго першабытных інстынктах і скрываўленых, макротных вантробах ягонага арганізму...

На пачатку кастрычніка апынуліся на маім пісьмовым стале адразу некалькі выданняў: "Лабух" Уладзіміра Някляева, "Ляда юдолі" Івана Лагвіновіча і "Рымскі трыпціх" Яна Паўла II ("Наша вера" № 3 за 2003 г., у перакладзе з польскай Д.Бічэль).

Мне зусім няпроста зараз вызначыцца, з чаго пачаць: з *высокага* ці з *нізкага*? Калі прытрымлівацца біблейскага, то, вядома ж, з высокага. Бо высокае, згодна Бібліі, і ёсць *пачаткам*, а нізкае, згодна нашага зямнога быцця, — *канцом* (апакаліпсісам), хоць грахоўны чалавек звык глядзець на гэта прагматычней: адпаведна іерархіі — уздымацца знізу ўверх па кар'ернай лесвіцы альбо падымацца з цёмнага дна жыцця ўверх да святла пазнання і духоўнасці...

Таму — пачну з *высокага*. У мінулым годзе нечакана для ўсіх, а мо і для сябе самога Ян Павел II напісаў вялікі паэтычны твор пад назвай "Рымскі трыпціх", у якім уславіў Тварца, "Кнігу быцця" і мастака Мікеланджэла, што распісаў Сікстынскую капліцу ў Ватыкане. Звыклай прозай цяжка перадаць глыбіню медытацый умудронага жыццём і ўзвышанага духам Паэта. Таму ўчытаймася:

*Парог Слова,*
*у якім было ўсё невідочным,*
*адвечным і Боскім —*
*за тым парогам*
*пачынаецца гісторыя!*

У тым ліку — і нашая сучасная гісторыя. Але ж, калі разважаць шырэй, то ці не кажа гэта ўскосна і пра тое, што кожны зямны творца таксама *дзеіць* сваім словам уласную, адпаведную значнасці сваёй асобы, гісторыю. Гісторыю Дабра альбо Зла. Зрэшты, а ці могуць яны тварыцца паасобна? Прынамсі напачатку стваралася менавіта гісторыя Дабра, пачынаючы з вядомых нам узаемаадносін Адама і Евы, якія, як піша Ян Павел II

*...на парозе гісторыі*
*бачаць сябе ва ўсёй праўдзе:*
*былі абое голыя...*

Голыя — азначае адкрытыя, шчырыя, бязгрэшныя і бачныя, не хаваючыя ні сябе, ні ў сабе нічога. А што і ад каго хаваць, калі "помыслы чыстыя"? Гэта і ёсць праўда жыцця ў свеце Дабра.

Але ўжо непадалёк ад гісторыі Дабра засноўваў сваю гісторыю Зла змей-спакуснік...

Так неўзабаве створаны свет стаўся двухпалярным, паколькі зло спакусіла дабро, а дабро купілася на зло...

І ўсё ж:

*"Стварыў Бог чалавека*
*на свае вобраз*
*і падабенства,*
*мужчынам і жанчынаю стварыў іх —*
*і ўбачыў Бог,*
*што было гэта вельмі добра,*
*абое ж былі голыя*
*і не адчувалі сораму"*
*Ці так магло быць?*
*Сучаснікаў пра гэта не пытай, спытай*
*Мікеланджэла,*
*(а можа і сучаснікаў?!)*
*Спытай у Сікстыны.*
*Як шмат сказана на гэтых сценах!"*

Так піша Ян Павел II, і тое азначае, што калі на нашы пытанні пра таямніцы светабыцця не адказваюць ні сам Першатворца, ні творца-мастак Мікеланджэла, то за іх адказвае само іх тварэнне... Толькі ўмей бачыць, слухаць, чытаць і разумець. І адвеку яшчэ не было той галавы, якая вызнала б памылку ў Боскім тварэнні, больш за тое, выправіла яе. Выправіць створанае Ім не можа нават сам Творца. Бо:

*"Чаму менавіта пра той*
*адзіны дзень сказана:*
*"Бачыў Бог, што ўсё,*
*што зрабіў, было добра"?*
*Ці гэтаму не пярэчыць гісторыя?*
*Хоць бы век наш дваццаты!*
*І не толькі дваццаты!*
*Аднак ніводзін век*
*не можа засланіць праўды*
*пра вобраз і падабенства."*

Ці не з гэтай прычыны так светла кладіся мне на душу паэтычныя радкі Івана Лагвіновіча з яго зборніка выбраных вершаў "Ляда юдолі". (Буду няшчырым, калі двурушна замоўчу, што з'яўляюся на грамадскіх пачатках укладальнікам гэтага "збору", аднак нікольки не камплексую, бо гэтая акалічнасць ні на ёту не мяняе сутнасці акрэсленай тут гаворкі.) Паслухайце што папярэднічае акту паэтычнага тварэння, хай сабе на ўзроўні пакуль і не надта вядомага паэта. Але ці заўсёды дацягваюць да гэтага ўзроўню многія знаныя творцы, не кажучы ўжо пра псеўдатворцаў? Цытую безназоўны верш І.Лагвіновіча цалкам, бо ён як бы стрыжнявы ў гэтым маім тэксце:

*Спачатку я ў кватэры прыбяруся:*
*памыю "пасівелую" падлогу,*
*павыціраю пыл і павуцінне,*
*стол засцялю абрусам светлым.*
*Затым умыюся і сам*
*з сунічным пахкім мылам,*
*адзену беласнежную кашулю*
*і лепшы свой святочны гарнітур.*
*Стварыўшы знак крыжа*
*перад сабою,*
*прачулую малітву прачытаю,*
*спагадлівага Бога папрашу,*
*каб даў натхнення.*
*І з чыстым сэрцам, чыстымі рукамі*
*вазьму я чысты ліст паперы,*
*за чысты стол пісьмовы сяду*
*ў пакоі чыстым*
*і запішу лірычны верш*
*пра чыстую любоў*
*да Беларусі.*

Усе мы разумеем, што не так важная, пэўна, для творцы *чысціня* знешняя, як тая, што падразумяваецца, — унутраная. Найперш тут пра яе і вядзецца. І чысціня тая — гэта прыбранасць ад лішніх і выпадковых рэчаў, якія парушаюць гармонію мастацкага вобраза альбо цэльнай карціны ці літаратурнай выявы. Ідэя, як ні дзіўна, не павінна дамінаваць над працэсам творчасці, а нязмушана вынікаць з ужо закончанага і самадастатковага твора. Вельмі часта задуму твора блытаюць з яго ідэяй. Гэта зусім розныя рэчы. Задума, як азарэнне, — гэта летуценная праекцыя, метафарычны абрыс будучага мастацкага палатна. Ідэя ж — зададзены Звыш — падсвядомы рух пяра і пэндзля... Бо што насамрэч з'яўляецца штуршком для творчасці? Як для мяне, то гэта — адназначна — вычуванне мастаком *духоўнага голаду*. Так, так, не перапоўненасць яго святлом, а зацятая ўнутраная зацемненасць і няўтульнасць творчай натуры. Толькі ствараючы — *успыхваем і палаем: растрачваем* фізічную энергію і назапашваем духоўную. Сам канчатковы твор ёсць адлюстраваннем гэтага ўзнёсла-пакутнага моманту.

*Падчас вялікіх адкрыццяў-цудаў*
*сумнеў на сэрцы —*
*біблейскім каменем...*

Менавіта *сумнеў*, як у гэтых радках І.Лагвіновіча, неадступна праследуе *самаўпэўненасць* творцы, пакуль не "прыціскае яе да сцяны", як "Чорны квадрат" Казіміра Малевіча перад выпадковай публікай...

Так з цягам часу паганцы сталі маліцца на абразы.

А ўсё ж як *родняцца* і адначасна *розняцца* заключныя радкі такіх далёкіх і блізкіх паэтаў!

Вось што вынікае з апошніх радкоў паэтычнага зборніка "Ляда юдолі" былога "вязня" падземных шахцёрскіх сутарэнняў Івана Лагвіновіча:

*Смерць мая не стане*
*цяжкай стратай.*
*Роспач вашых сэрцаў не кране.*
*Я не быў ніколі герастратам.*
*Хутка вы забудзеце мяне.*

А вось якім разуменнем поўніцца паднебны дух Яна Паўла II напрыканцы яго "Рымскага трыпціха", у тым месцы, дзе Абрагам прыводзіць на ахвяру Богу свайго адзінага сына:

*Ён сам стрымае тваю руку,*
*калі будзе ўзнятая*
*на ахвярны ўдар...*
*Ён сам не дапусціць,*
*каб рука твая здзейсніла*
*тое, што ўжо здзейснілася ў сэрцы.*
*Так — завісне ў паветры твая рука.*
*Ён яе сам спыніць.*
*І з гэтага часу узгор'е ў краіне Moria*
*станецца чаканнем —*
*на ім павінна споўніцца таямніца.*

Якая ж таямніца павінна споўніцца на ахвярным месцы? Пакуль — невядома, але безумоўна, што гэта будзе самы высокі творчы акт. І так ці інакш, ён адбудзецца праз Слова, як працяг спрадвечнай гісторыі, што вынікае з Яго. Назавём тую таямніцу *пасляслоўем*...

Той жа, хто разгорне, мякка кажучы, празмерна натуралістычны "раманчык" Уладзіміра Някляева "Лабух", няхай паспрабуе давесці мне адваротнае. Пры ўмове, што дачытае яго да канца, як тое нечакана параў мне наш вядомы паэт "чыстай красы" Леанід Дранько-Майсюк. Я не змог...

Цяжкі для паэтаў час. Як пісаў празорлівы Барыс Пастэрнак:

*Напрасно в дни великого совета,*
*Где высшей страсти отданы места,*
*Оставлена вакансия поэта:*
*Она опасна, если не пуста.*

Але несумненным застаецца адно: будучае, як і прамінулае, — за творцамі...

**Леанід ГАЛУБОВІЧ**

# АПАНТАНЫМ УСЁ ПАД СІЛУ

Леанід Маракоў уражвае мяне сваёй апантанасцю і працавітасцю, паслядоўнасцю ў пошуках матэрыялаў і непрадказальнасцю. Мяркуйце самі. Пачаўшы свой працоўны шлях са служэння дакладным навукам, ён потым паспрабаваў заняцца бізнесам. І раптам — шок: аказваецца, што яго родны дзядзька беларускі пісьменнік Валерый Маракоў, іншыя сваякі сталі ахвярамі сталінскіх рэпрэсій. Леанід кідае ўсё і пачынае збіраць па розных крыніцах друкаваныя і рукапісныя творы пакаранага смерцю дзядзькі, выдае іх, даследуе ягоную творчасць. І робіць гэта прафесійна — нібыта закончыў філалагічны ці журналісцкі факультэт. Затым у полі зроку аказваюцца калегі В. Маракова, потым — іншыя рэпрэсаваныя пісьменнікі, рэпрэсаваныя ўвогуле. Выходзяць даведнікі, кніга мастацкай прозы на тую ж, хвалюючую аўтара і ўсіх нас тэму. Леаніда прымаюць у Саюз беларускіх пісьменнікаў, Саюз журналістаў Беларусі, ухваляюць ягоныя апавяданні, дэтэктыўныя аповесці.

ЛЕАНІД МАРАКОЎ

РЭПРЭСАВАНЫЯ
ЛІТАРАТАРЫ, НАВУКОЎЦЫ,
РАБОТНІКІ АСВЕТЫ,
ГРАМАДСКІЯ І КУЛЬТУРНЫЯ
ДЗЕЯЧЫ БЕЛАРУСІ
1794—1991

Але ўсё ж галоўнай справай, жыццёвым подзвігам Леаніда Маракова на маіх вачах робіцца шматтомны даведнік "Рэпрэсаваныя літаратары, вучоныя, работнікі асветы, грамадскія і культурныя дзеячы Беларусі. 1794—1991". Ужо выйшлі два тамы своеасаблівай энцыклапедыі, першы наклад якіх разышоўся імгненна (хутка будзе дадатковы). Цяпер рыхтуецца да друку трэці том. А за ім аўтар бачыць чацвёрты, пяты, шосты і сёмы...

Паколькі я з'яўляюся рэцэнзентам даведніка, добра ведаю яго змест. Мяне ўражвае ў ім багацце новага матэрыялу, сотні невядомых і забытых імёнаў. Прыкладна дзве пятыя з іх — беларусы, адна пятая — рускія, адна пятая — яўрэі, адна пятая — палякі. Ёсць латышы, літоўцы, немцы. Была б мая воля, я выбраў бы рускую, яўрэйскую і польскую часткі, пераклаў бы іх на адпаведныя мовы і выдаў бы асобнымі кніжкамі. Тым больш, што, у адрозненне ад Беларусі, у іншых краінах такіх грунтоўных даведнікаў, здаецца, няма.

Можа, нават сам Леанід Маракоў не дужа ўяўляе, за якую цяжкую, бясконцую работу ён узяўся. Іншыя, у іншых краінах — не браліся. У крайнім выпадку — складалі толькі спісы (і то лакальныя). А ён асмеліўся. Бо апантаным усё пад сілу!

Адам МАЛЬДЗІС,
старшыня грамадскага аб'яднання
"Міжнародная асацыяцыя
беларусістаў"



Уладзімір СІЎЧЫКАЎ



## ПІШУЦЦА ТАНКА І ХОКУ

•
*Гартаю альбом*
*На лецішчы пры грубцы.*
*Снежаньскі вечар.*

•
*Малако з мёдам –*
*Найсаладзейшы ўспамін*
*Пасля прастуды.*

•
*Стрэліў вугольчык*
*На бляху каля грубкі.*
*Стома сыходзіць...*

•
*Вясёлка знікла,*
*І падалося раптам –*
*Сябрук пакінуў.*

•
*Бы ніцавокі*
*Жалезабетонны ДОТ*
*Дзівіцца на рунь.*

•
*Свята, якое*
*Штораніцы з табою, –*
*Кубачак кавы.*

•
*Адзін у купэ.*
*Краявіды маленства*
*Мігцяць за акном.*

•
*У сваё маленства*
*На хвалях сноў качую.*
*Дым над вадою...*

•
*Валун халодны.*
*Багоўка на далоні.*
*Сяджу ля става.*

•
*Перапыніся –*
*Шапоча штосьці лістота*
*Пад сонцам жніўня.*

•
*Спякотны дзень.*
*Вераб'і купаюцца*
*У пясочніцы.*

•
*Пакой паўзмрочны,*
*Напяты вэлюм гардзін –*
*Дынная поўня.*

•
*Ускраек мора...*
*Аскепачкі бурштыну*
*Знаходжу зрэдку.*

•
*Батанічны сад...*
*Углыб сажалкі адплыў*
*Спалоханы карп.*

•
*Мяккая ўсмешка –*
*Павучок уверх папоўз*
*Леташнім ранкам.*

•
*Кінуў жалудоў*
*У фантан з жабоцькамі*
*Старасвецкі дуб.*

•
*Венера-зорка,*
*Напэўна ж, дзесьці й сёння*
*Дзеці слёзы льюць.*

•
*Паркан фарбую.*
*Саспелай вішні фарба*
*Заспакойвае.*

•
*Кубак забыты*
*На цыраце ў альтанцы.*
*Мжака цярусіць.*

•
*Грэюцца коткі*
*На капотах машын.*
*Празрысты ранак.*

•
*На дым гаркавы*
*Дзівуецца малеча.*
*Бульбоўнік паляць.*

•
*Лісток зашэрхлы*
*На яблыню вярнуўся?*
*То шэры мятлік!*

•
*Кошка-прыблуда*
*Жаласліва каўкае...*
*Дачы спусцелі.*

•
*Начытваюся*
*Такубоку – пішуцца*
*Танка і хоку.*

•
*Па-над кар'ерам*
*Пры Валоўшчыне Малой*
*Скавыча вецер.*
*Замаркочаны пясок*
*Струменіцца між пальцаў.*

•
*Ясна, відочна*
*Выбліснe думка ў паўсне...*
*"Заўтра згадаю..."*
*Прачнешся на досвітку –*
*Знікла бясследна! Шкада...*

•
*Заслаўскі кірмаш*
*Віруе гаманліва.*
*Дзесь непадалёк*
*Сном тысячагадовым*
*Забылася Рагнеда.*

•
*Знікае ў цемры*
*Ды зноў пад лампіёнам*
*Кажан крыляе.*
*Не спіцца й на мансардзе*
*Задушліваю ноччу.*

•
*Пабагацелі*
*Прыбіральшчыцы ў двары –*
*Важкія гурбы*
*Залатое лістоты*
*Шторання намятаюць.*

•
*Даўняя стужка*
*З-пад аўтаадказчыка.*
*Гукаюць да мяне*
*Тыя, што ўжо адышлі –*
*Уладзімір Жыжэнка...*

Ірына ПРАКАПЕНЯ



## КАХАННЯ ЛЕТАШНЯГА ЗВОН

*Зязюлька хутка вёсны лічыць,*
*Алешнік дрэмле ля вады.*
*Няўжо мяне ты не паклічаш,*
*Каб збегла ўпотай я сюды?*

*Не грэе позняе чаканне,*
*І на рамонцы ваража.*
*Сустрэчы, кветкі, развітанні*
*Напэўна, помніць шчэ вярба.*
*Салодкім мёдам пахне грэчка,*
*Заранка гасне над вадой.*
*Нібыта дагарае свечка,*
*Кахання нашага з табой.*

## РОДНЫЯ МЯСЦІНЫ

*Заблытаўся поўдзень стракаты*
*У ветра густой барадзе.*
*Бярозкі губляюць дукаты,*
*У соннай празрыстай вадзе.*

*Як любыя сэрцу мясціны,*
*Дзе сцежак прасцерты рубцы,*
*Дзе пішуцца проста карціны,*
*Аб вечным, а не аб канцы.*

*Зноў шэршань шапоча кудлаты,*
*Аб нечым таемным сасне.*
*І зноў прыбягу я да хаты,*
*І гэта ўжо будзе не ў сне.*

## ВЁСКА

*Сыпле вёска колер верасовы,*
*Задуменна моўчкі я стаю.*
*Не знайсці, відаць, такой замовы,*
*Каб вярнуцца ў маладосць маю.*

*Пазірае неяк ваўкавата,*
*Згорблены, драўляны журавель.*
*І яго калодзежная хата*
*Не заслоніць ад ліхіх завей.*

*Цягне дзіўнай прахалодай нейкай,*
*Ад здаўна знаёмых берагоў.*
*Сонца жоўтай меднаю капейкай.*
*Падае ў кішэню неба зноў.*

*А жыццё заблісквае вачыма.*
*Недзе з вёскі мабыць будуць кпіць.*
*А ці варта? За яе плячыма*
*Горад, як за крэпасцю, стаіць.*

•
*Усё на свеце — мітусня,*
*Кудзеля часу, днямі спраная.*
*І праўда — горкая хлусня,*
*І дабрыня неспадзяваная.*

*Націнкай колішніх трывог*
*Апалі дзён скупыя мары.*
*Згаслі сутаргі дарог*
*Юнацкай горычы пажары.*

*І споведзь леташніх гадоў,*
*Былых пралікаў не даруе.*
*Ён безразважны, гэты свет,*
*А гэтак дорага каштуе.*


Фота Ігара ГОРСКАГА

# ДЗІЧКА МІЖ ТРОХ КАМЯНЁЎ

Уладзімір ЦІШУРОЎ



Калі зямля на нешырокім полі між цёмнага глухога лесу і ляска-зарасніка пад назвай Падар дрыжэла пад коламі трактара ці камбайна, дрыжэла і яблынька-дзічка. Яна стаяла на самым краі ляска, між трох камянёў, ссунутых у свой час з поля магутным бульдозерам. Яе галаву не раз калашмаціў невядома з чаго раз'юшаны вецер — у любую пару года. Але яе, самотную, такая вось дзёрзкасць ветру забаўляла. Яна калыхалася туды-сюды, як гуллівае дзяўчо ў прыдуманым ёю самой танцы. І вось так, калыхаючыся, пазбаўлялася суму.

Але цяпер была глыбокая восень. І дзічка амаль забылася на дрыжанне зямлі пад коламі камбайна, а потым гусенічнага трактара, што падымаў плугам зямлю пад зябліва.

"Прыйдуць халады, маразы, і зямля сапраўды будзе зябнуць", — спачувала яна. Ведала, што мароз абхопіць, сцісне ў сваіх халодных абдымках і яе. І яна засне, як упадзе ў непрытом'е. Але не зусім, свядомасць не засне... Праз сон будзе адчуваць і чуць вецер, холад і ўсё-ўсё, што будзе адбывацца навокал.

Дзічка памятае сябе маленькай. Аб тым, як з'явілася на свет, не задумвалася. Мо птушка прынесла семку ад яблыка. Яно ўпала на зямлю і праз колькі часу прарасло...

Як была маленькай, здавалася, усё навокал абараняе яе ад раз'юшанага ветру і калючых халадоў. На самым краі ляска перад ёй стаяў высокі, круглагаловы, падобны на стажок сена, лазовы куст. І ён прымаў неласкавасць надвор'я — непагадзь-золь, навальніцы, віхуры зімы — першы. І яблынька ў такі час прысядала да зямлі, хаваючыся за куст. А куст тармасіла, гнула да зямлі і, здавалася — вось зараз ён вывернецца з глебы. Але вецце ягонае было пругкае, гнуткае, магло сагнуцца да зямлі ды не зламацца. І пасля буры куст-стажок ганарліва, з усмешкай пазіраў на дзічку, маўляў, абаранілася, схаваўшыся за мяне. А яна сарамліва апускала галаў.

Увосень дзічка найчасцей драмала. Восень спрыяе сну — ад доўгай маркоты цягне на сон... Зусім іншае — лета. Улетку дзічка сну не ведала. Кожны яе лісток быў вухам, таму яна чула слухала дзень і ноч. Калі квітнела ўвесну — кожная кветка была яе вокам. Улетку кветкі-вочы адцвіталі, але не знікалі. Улетку яе вочы былі яблыкамі. І калі ўвосень яблыкі падалі на дол, яблыня слепла. І калі ападала лісце — глухла. І чакала прыходу вясны, каб зноў глядзець і слухаць. Цяпер жа, увосень, сонца і святла было мала. І дзічка памалу слепла і глухла, і яе галава нагадвала клубок цёмнага калючага дроту.

У адзін з асенніх дрымотных дзён яна нечакана пачула нечыя паспешлівыя крокі. І стала ўглядацца — хто ж ідзе? Да яе ў шэрым шынялі, у выцвілай пілотцы на галаве набліжаўся салдат. Ён таропка ішоў паўз край ляска. Пазіраў з неспакоем па баках. З-за пляча выглядаў чорны ствол аўтамата.

"Салдат, адкуль ён тут?" — здзівілася дзічка.

Салдат параўняўся з дзічкай, павярнуў да яе, падышоў, зірнуў уверх на вочы дзічкі. Кінуў зброю пад камень, стаў на яго, сарваў яблыкі... Моршчыўся, бо было горка, але хрумсцеў... І ўсё пазіраў у той бок, адкуль прыйшоў, нібы нечага чакаў.

Адзін яблык толькі й застаўся з дзічкі — салдат яго не прыкмеціў. І яна пачала пазнаваць салдата, у абліччы было нешта знаёмае.

Урэшце яблыня ўспомніла прыхадня. "Ці не той гэта, што хлапчуком год восем таму хадзіў тут з граблямі — сена недзе зграбаў?.. Тады быў малы, канапаты, худзенькі, як заморак. Так, гэта ён..." — і маўклівая дзічка страпянулася, спытала:

— Ці не з той ты вёсачкі, што некалі была тут, вось за гэтым полем?

Салдат сядзеў пад каменем, еў дзікія яблыкі.

— Не, ужо няма гэтай вёсачкі, — прабубнеў ён, — няма...

— А чаму ты тут? У шынялі?..

— Чаму-чаму-чаму, — уздыхнуў ён. — Уцёк з арміі...

— Ты?! Уцёк? Як гэта? Цябе ж...

— Можа, й будуць судзіць, — не даў яблыньцы дагаварыць, — але я не здамся. Ёсць аўтамат, патроны — два ражкі, яшчэ там... буду адстрэльвацца...

— А чаго ты менавіта сюды прыбег?

— Захацелася. Усё ўяўляю гэтую мясціну... Мо што малы тут бегаў?.. Радзіма... Не ведаю...

— Ты падумаў аб будучым, аб тым, што з табой будзе?

— Будучае?.. Якое будучае? — ускочыў з зямлі салдат. — Яны, — кіўнуў галавой туды, адкуль прыйшоў, — здзекаваліся з мяне. Не давалі начамі спаць. Уноч — на баявое дзяжурства, а раніцай усе ідуць спаць, а мяне то падлогу мыць, то на кухню за тое, што нібыта спаў на дзяжурстве... Мана! "Дзяды" самі спяць... А калі што — паказваюць на "маладога"... "Ён, — пакажуць на мяне ці яшчэ на каго, — спіць..."

— Іншыя ж неяк служаць?

— Не ведаю! Надакучыла кавалкі мыла на падлозе размыльваць. Залу для пастраенняў з трыста квадратных метраў за трыццаць хвілін з мылам трэ вымыць... Ды яшчэ які "дзед" быццам незнарок таз з бруднай вадой ботам пераверне. Надакучыла! Адны здзекі! Я на дзяжурстве не спаў, мо проста галава сама па сабе ад стомы боўтнулася ўніз...

— Чаго ты прыйшоў сюды, тут жа людзі не жывуць і бацькоў тваіх няма — яны ж з'ехалі ў іншую вёску...

— Ведаю... Я думаў, выкапаю тут зямлянку і буду жыць.

— А ежу дзе браў бы?

— Ежу? Думаў грабануць магазін.

Салдат чамусьці не здзіўляўся, што размаўляе з дрэвам. Яблынька змоўкла. Салдат наставіў каўнер шыняля, прысеў, прыхінуўся спіной да каменя, заплюшчыў вочы.

— У мяне было цяжкае маленства. Бацькі сварыліся. Маці раўнавала бацьку да нейкіх жанчын... Пакідала мяне з бацькам — калі на месяц, а то і больш. І карову трэ было даіць, і сена зграбаць, і самому сабе есці гатаваць, і кашулю памыць... Я ўсё працаваў па гаспадарцы, злаваўся... У мяне слабыя нервы — мне пра гэта казалі ў школе, у войску... Адтуль прычына... — прашаптаў салдат. Ён, здавалася, засынаў, седзячы.

"Што з ім будзе, — трывожылася дзічка, — што з ім будзе?"

Як пачало змяркацца, салдат страпянуўся, мажліва, у сне. Сонна-няўцямна глядзеў перад сабой, потым падняўся з зямлі. Зрабіў некалькі прысяданняў, памахаў рукамі — мусіць, каб сагрэцца. Потым пачаў рваць сухую траву, папаратнік — усё гэта насіў, кідаў пад камень. Потым штыкнажом зрэзаў некалькі маладых дрэўцаў, абсек галіны і паблізу каменя стаў узводзіць будан. Узводзіў паспешліва, але старанна... Будан абклаў зверху мохам, якога ў ляску было багата.

Калі ўжо добра-такі сцямнелася — расклаў вогнішча. Дзічка маўчала. Ёй было шкада гэтага юнака, пакрыўджанага і адчайнага... А той сядзеў і глядзеў на полымя. Калі яно затухала, кідаў у яго сухое ламачча. Потым залез у будан, лёг на сухую траву — і ўсё глядзеў на полымя. Так, лежачы галавой да яго, і заснуў.

Дзічка таксама задрамала. Аб нечым шаптаў дрэвам вецер, і нерухомымі вогненнымі мухамі палалі ў небе зоры над начной сцішанасцю зямлі.

На самым світанні да будана падышоў чалавек у цывільным. Невысокага росту, просты картух на галаве, у ялавых ботах, запыленым пінжаку, цераз плячо перакінута вайсковая палявая сумка. Перш чым падысці да будана з хвіліну ўважліва глядзеў на яго. Цяпельца толькі слаба дыміла, і пэўна, на пах дыму і прыйшоў гэты мужчына. Ён ціхенька падкраўся, зазірнуў. Твар яго выцягнуўся, збялеў, калі ўбачыў у будане салдата. Прысеў на кукішкі.

— Гэй! — тармаснуў за плячо салдата.

— Што? Хто? — страпянуўся салдат і адразу схапіўся за аўтамат. — Ідзі адсюль! — наставіў на таго зброю.

— Ты што?! — у страху і здзіве выдыхнуў мужчына.

— Бягом адсюль! Мухай!.. — загадаў салдат.

— Я... якой мухай?

— Скорасць такая, ясна?.. Апошні раз гавару!

— Ладна. Ціха, — узняў мірна руку мужчына, — пайду... — і, не выбіраючы дарогі, пайшоў прэч ад будана. Пад нагамі трашчала сухое ламачча, шархацела аб адзенне вецце кустоў. Салдат нейкі час глядзеў услед нежаданаму, нечаканаму госцю.

— Адкуль ён тут, гэты дурань? І як знайшоў? — прамармытаў незадаволена. — Трэ было не тут будан ставіць. М-да-а...

"Гэта ляснік", — хацела сказаць дзічка.

Салдат зноў пачаў распальваць вогнішча. Але патухлі вуглі. Тонкія галінкі за ноч адсырэлі і не хацелі гарэць. Тады салдат паклаў на ламачча папаратнік, на якім спаў. Папаратнік запалаў адразу, услед за ім паступова пачало разгарацца і ламачча. Салдата трасло ад холаду, і ён прысядаў, махаў рукамі. Потым падсеў да вогнішча, наставіў далоні, каб сагрэць. Але ля вогнішча сядзеў нядоўга. Недзе недалёка была вёска, бо чуліся галасы пеўняў. Потым заракатаў трактар, прагула, пэўна, па шашы, машына. Салдат пайшоў не туды, адкуль даносіўся гул трактара, а ў супрацьлеглы бок, адкуль і прыйшоў. Адтуль чулася рыканне кароў, голас пастуха.

Салдат пайшоў, а дзічку не пакідала трывога, неспакой за яго. Яна доўга глядзела ўслед, пакуль той не павярнуў улева, за край лесу... І вецер гудзеў дзічцы ў вуха: "Куды ён пайшоў? А хто ён, адкуль?" Але дзічка ветру нічога не адказала. Надвор'е было сырое, неба хмарнае, і, стомленая, яна задрамала...

Прачнулася ад глухога тупату ног — да яе бег салдат. Той самы. У правай руцэ трымаў аб'едзены зверху бохан чорнага хлеба, у левай — аўтамат. Ён адразу схаваўся за камяні, між якіх паднімаўся ствол дзічкі.

— Высачылі, угледзелі! — злосна прашаптаў. — Я ім так не дамся!..

Ён выглянуў з-за камянёў.

— Бягуць, трое. Афіцэр з імі...

Паўз край ляска, пазіраючы ўглыб, спешна ішлі двое рослых салдат і высокі хударлявы афіцэр, які трымаў у руцэ пісталет.

— Где-то он здесь, — прамовіў афіцэр, падазрона гледзячы на тонкія бярозкі і парыжэлыя чубы асакі-шабельніцы ў ляску.

Сухім трэскам з-за камянёў парушыла цішу асенняга дня аўтаматная чарга.

— Ложись! — скамандаваў афіцэр, і ўсе трое пападалі на дол.

— Худович! — крыкнуў афіцэр. — Сдавайтесь! Будете стрелять — будет хуже! — і, памаўчаўшы, дадаў: — Даю пяць минут на размышление...

Настала цішыня.

Афіцэр ляжаў на зямлі, і двое яго падначаленых таксама.

— Худович! Вы окружены! Выходите!.. — не падымаючыся з зямлі, зноў крыкнуў афіцэр. — Вас ищет весь ваш взвод. В своих не стреляют! Здесь ваш друг Левыкин!

З-за камянёў не чулася адказу. Потым ізноў працяглая аўтаматная чарга парушыла цішу. Але накірунак стральбы быў не да таго месца, дзе ляжаў афіцэр і салдаты.

— Боится, стреляет куда попало... — насмешліва прамовіў афіцэр. — Худович, прекратите! — крыкнуў ён. — Сволочь!

З-за камянёў не чулася адказу.

Праз пяць вызначаных хвілін афіцэр і салдаты падняліся з зямлі і даволі смела накіраваліся да камянёў. Афіцэр трымаў напагатове пісталет, салдаты — аўтаматы.

Падыходзілі не без асцярогі — часам спыняліся, прысядалі, пачуўшы падазроны шорах. Афіцэр маўчаў, хаця салдаты, часам з нямым пытаннем, пазіралі на яго. Маўляў, калі Худовіч паласне па нас з аўтамата? Ён жа напалову вар'ят! Нельга сказаць, што і ў хударлявага афіцэра не цякло ў жылах хоць колькі "зайцавай крыві", — твар збялеў, рухі былі рэзкія, як у перапужанага чалавека. Але трэ было выконваць загад камандзіра: "Абяззброіць, даставіць жывым!"

Афіцэр і салдаты падкраліся да трох камянёў зусім блізка, але адтуль — ні гуку.

— Может... убежал куда? — шапнуў салдатам афіцэр.

І тады яны з двух бакоў абышлі камяні і ўбачылі: на зямлі ніцма ляжаў салдат Худовіч. Плечы яго ўздрыгвалі — ён бездапаможна і глуха рыдаў. Побач ляжаў аўтамат, валяліся пустыя ражкі для патронаў і выцвілая пілотка.

— Поднимайтесь! Быстрее! — рашуча загадаў афіцэр. — Ну! — Ён падняў з зямлі аўтамат Худовіча: — Дезертир несчастный...

Худовіча адарвалі ад зямлі салдаты. Без пілоткі на галаве, пад канвоем павялі яго да вёскі, дзе з раніцы ракатаў трактар. Афіцэр ішоў папераздзе, за ім Худовіч, за Худовічам на адлегласці, што вызначана вайсковымі правіламі канваіравання, двое салдат.

Дзічка была мокрая. Крышталікі слёз халоднымі агеньчыкамі свяціліся на кожным суку і падалі ўніз...

Прайшло некалькі год. Увесну зацвілі вочы дзічкі пяшчотна-ружовым колерам. І тысячы гэтых святочных вачэй глядзелі ў свет... Вочы не маглі не ўбачыць маладога чалавека ў спартыўнай куртцы, джынсах, модна падстрыжанага, з задуменным не па гадах абліччам. Дзічка распазнала ў маладым чалавеку таго салдата...

"Няўжо? Жывы!" — здзівілася.

— А гэта я, — правеў рукой па ствале дзічкі госць. — Бачыш, жывы... Мне амаль усё даравалі. Хаця быў сход, ротны камандзір хацеў аддаць пад трыбунал... Але ён яшчэ хацеў і павышэння ў званні. А гэтае ЧП са мной магло б усё яму сапсаваць... Ды й я быў правы наконт здзекі з маладых салдат. Цяпер вучуся, жыву ў горадзе. Прыехаў во адведаць мясціны, дзе малы бегаў...

Юнак крыху пастаяў ля дзічкі і пайшоў. "Дзякуй Богу — жывы! Праўда, пасівеў рана", — прашаптала дзічка.

Была вясна...

# ТЭАТРАЛЬНАЯ ЖУРНАЛІСТЫКА — АД «А» ДА «Я»

"Тэатральная журналістыка. Тэорыя і практыка" — так называецца манаграфія вядомейшага ў нашай краіне і за яе межамі тэатральнага журналіста, супрацоўніка кафедры літаратурна-мастацкай крытыкі БДУ Таццяны Дзмітрыеўны Арловай. Навуковая праца, якая ўбачыла свет у выдавецтве Беларускага дзяржаўнага універсітэта, разглядае шматлікія тэарэтычныя праблемы сучаснай тэатральнай крытыкі, прычым аўтар прапаноўвае новую тэрмі-




налогію і новы падыход да тэатральных матэрыялаў.

У сваёй манаграфіі Таццяна Дзмітрыеўна перш за ўсё абараняе права на існаванне ў навуковым асяродку такога тэрміну, як "тэатральная журналістыка". Знаходзячыся на памежжы журналістыкі і тэатразнаўства, гэтая журналістыка, якая не толькі паведамляе пра тэатральны факт, але і асэнсоўвае яго (хай і не так грунтоўна, як гэта робіць тэатразнаўства), а таксама эмацыянальна ўздзейнічае на чытача, аказалася запатрабаванай сучаснай, раскаванай па думцы і стылю прэсай. Як справядліва зазначае аўтар: "Спецыяліст заўсёды ведае ў сваёй сферы больш, чым журналіст, але рэдка можа даказаць гэта не толькі на інтэлектуальным, але і эмацыянальным узроўні". Менавіта тэатральнай журналістыцы даводзіцца зараз, калі няўхільна падае колькасць апублікаваных тэатразнаўчых прац, асэнсоўваць месца тэатра ў сучасным грамадстве. Зараз, калі нават казаць аб тэатры як аб храме, кафедры, стала не модна.

У манаграфіі аўтар імкнецца высветліць, як журналісцкі тэкст пра тэатр, спектакль, акцёра, тэатральную з`яву захоўвае і перадае розную інфармацыю, як ён арганізаваны ў часе і прасторы. Праца гэтая складаецца з дзвюх частак. Першая — тэарэтычная. Яна разглядае станаўленне тэатральнай журналістыкі, яе гісторыю і сучасны стан, даследуе тэатр як семіялагічную сістэму. Вялікая ўвага тут надаецца асаблівасцям функцыянавання тэатральнай журналістыкі ў сучасных СМІ, у прыватнасці, асэнсаванню постмадэрнізму ў тэатры, узаемапранікненню жанраў, а таксама электроннай версіі тэатральнай інфармацыі. Другая частка, практычная, заснавана на шматгадовым вопыце аўтара ў галіне тэатральнай журналістыкі. Тут у якасці прыкладу прапануюцца некаторыя з тэкстаў Таццяны Дзмітрыеўны, у розны час надрукаваныя ў розных выданнях. Кожны з іх — яркі, запамінальны ўзор удалага спалучэння аўтарскага самавыражэння, ведання багатага культурнага кантэксту, майстэрскага валодання словам з дакладным аналізам творчасці іншых людзей. Гэтыя матэрыялы складваюцца ў адзіную, поўную і каляровую карціну жыцця беларускага тэатра апошняга дзесяцігоддзя. Тэатральны журналіст т. Арлова нічога не пакідае па-за ўвагай, разглядаючы як здабыткі нацыянальных, дзяржаўных калектываў, так і развіццё прыватнай антрэпрызы, фестывальнага руху на Беларусі.

Манаграфія з`яўляецца неацэнным падручнікам для навучэнцаў не толькі тэатразнаўчых факультэтаў айчынных і замежных ВНУ, але і для будучых журналістаў, што вырашылі спецыялізавацца на асвятленні тэатральнага мастацтва.

Юлія ПАЛАЧАНІНА



# ВЯЛІКІ ПОСПЕХ КАМЕРНАГА СПЕКТАКЛЯ

***Лаўрэатам Міжнароднага тэатральнага фестывалю "Белая вежа – 2003" у намінацыі "Лепшы эксперымент" сярод тэатраў драмы стаў спектакль Уладзіміра ПЯТРОВІЧА "Ноч Гельвера" па п'есе сучаснага польскага драматурга Інгмара ВІЛЬКВІСТА. Для Магілёўскага абласнога драматычнага тэатра гэта падзея, згадзіцеся, паважная. З гэтай нагоды адбылася гаворка з рэжысёрам спектакля.***

***— Уладзімір, чаму вы абралі для пастаноўкі менавіта гэтую п'есу?***

— Я пазнаёміўся з ёй падчас семінара польскай драматургіі, што быў арганізаваны ў Мінску Польскім інстытутам. Жаданне паставіць узнікла адразу. Былі сумненні, ці спраўлюся з матэрыялам. Пры першым чытанні адчуў сапраўдны шок, што бывае са мной даволі рэдка ў апошні час. Я не хачу пакрыўдзіць іншых аўтараў, але драматургічны матэрыял такога кшталту не сустракаўся мне ўжо даўно. Менавіта тое маё першае адчуванне шоку я і намагаўся перадаць у сваёй пастаноўцы сцэнічнымі сродкамі. Але я не хацеў толькі шакіраваць публіку, займаючыся своеасаблівым эпатажам. Мяне зацікавіла сама п'еса: яна вельмі жорсткая, экстрэмальная і адначасова з гэтым заражаная светлым гуманістычным пачаткам.

Выбачайце за крыху пафасныя словы, але для сабе я вызначыў, што, менавіта, прэваліраванне гэткіх рысаў характару, як міласэрнасць, спачуванне і пакаянне, не дае на сённяшні дзень міру ўпасці ў хаос. Калі гэтыя пачуцці знікнуць – наступіць хаос, пакуль жа яны ёсць у чалавека -- яго ўнутраны свет вытрымае. Я на працягу ўсяго спектакля кажу пра гэта, што менавіта гэтыя якасці мы павінны ў сабе культываваць.



***— І ўсё ж, нягледзячы на тое, што п'еса давала магчымасць досыць жорсткага вырашэння, вы абралі другі шлях. Чым можна растлумачыць мяккасць прапанаванай вамі трактоўкі?***

— Я спецыяльна пазбягаў жорсткасці ў спектаклі. Яе шмат у самой п'есе, адно гэта шакіруе. Зрабіць паўтарагадзінны псіхалагічны прэсінг было б занадта жорстка і, на мой погляд, наўрад ці патрэбна. Праз гэта губляецца сэнс, трэба ўсё ж такі ісці ад простага да складанага. Я не хацеў ціснуць на гледача з першых хвілін, бо тады б паўстала пытанне: калі гэта толькі пачатак, які ж будзе фінал? Сцэнічная дзея падалася б чымсьці зусім экстрэмальным. Я ж у сваёй пастаноўцы, спадзяюся, дайшоў ад простага да нейкай высокай кропкі.

Наогул, я лічу -- тое засілле гвалту, што акружае нас, гэта шмат у чым вынік таго гвалту які мы бачым па тым жа тэлебачанні. А ў гэтай пастаноўцы іншыя мэты. Тут ідзе спроба аналізу ўнутранага стану і ўзаемаадносін. Адбываецца збліжэнне, адкрыццё адзін аднаго на ўзроўні нават не асоб, а






# «КРАМБАМБУЛЯ»: ЗА ДЫСКАМ – КАНЦЭРТ...

***Крытыкі заўважылі, што стыль першага альбома "Крамбамбуля", які выйшаў у свет у 2002 годзе, было вызначыць лёгка: на трэках гэтага дыска слухачам была прадстаўлена стылізаваная музычная карціна свету. А вось з другой — "Крамбамбуляй 1 1/2" праблемы. Розная яна, як і розныя выканаўцы, якія прадставілі гэты музычны прадукт: Лявон ВОЛЬСКІ (N.R.M.), Сяргей МІХАЛОК ("Ляпис Трубецкой"), Аляксандр КУЛІНКОВІЧ ("Нейра Дзюбель"). А разам – рок-каралі Беларусі розных гадоў. Таму і дыск "Крамбамбуля 1 1/2" займеў назву "Каралі раёна".***

Такую ж назву меў і канцэрт-прэзентацыя праекта "Крамбамбуля", якая адбылася не так даўно ў канцэртнай зале "Мінск". Запоўненая зала сведчыла пра немалую работу, якую правялі прадзюсеры праекта Ганна Вольская і Яўген Калмыкоў у падтрымку новага альбома і канцэрта. Тут трэба ўзгадаць і здымкі кліпа на песню "Госьці", рэкламныя матэрыялы на тэлебачанні, у прэсе і метро, выданне яркіх сувенірных паштовак, шматлікія прэс-канферэнцыі і прэзентацыі. А галоўнае, прадзюсерскі дуэт змог аб'яднаць творчы патэнцыял "Каралёў раёна", прыцягнуць сродкі спонсараў, у якасці якіх выступіла беларуская фірма BELPI — "Беларускае пітво"...

**Спонсарская падтрымка беларускіх культурніцкіх праектаў — не навіна для кіраўнікоў BELPI С. і Д. ДАЙНЕКАЎ. Вось і ў выпадку з "Крамбамбуляй 1 1/2" фірма падтрымала музыкаў. Канцэрт быў прымеркаваны да 10-годдзя фірмы BELPI, якая ў гэты час святкавала свой юбілей. Таму атрымаўся добры прыклад для іншых беларускіх бізнесоўцаў у падтрымцы сучаснай беларускай культуры, а, таксама, шчыры падарунак мінскім слухачам.**

Пачатак канцэрта-прэзентацыі склалі тры нумары з першага альбома праекта. Вось вядучы канцэрта рэпер Аляксандр Памідораў абвяшчае першы нумар канцэрта — песня ў стылістыцы сіртакі "Прадай каня, купі віна!" Адразу пасля першых акордаў Лявона Вольскага і яго сяброў, слухачы пачалі ўспамінаць трохі забытыя хіты з "Крамабамбулі-2002". Сярод іх амерыканскае кантры "Куфаль піва, келіх віскі", арыенталісцкі "Кумыс", сумную баладу на цірольскі лад "Маленькія жаўнеры", ірландскую стылізацыю "Балада пра Шэйна-Джэка О'Канэлі і яго сіні нос", імправізацыю на афрыканскія рытмічныя тэмы "Кутата-мутата, народнае свята" і гэтак далей.

Асобны поспех на долю музыкаў выпаў падчас выканання самага знакамітага хіта "Крамбамбулі" — песні "Абсэнт", якая "заваявала" не толькі радыё- і тэлеэфір, але і стала своеасаблівай візітоўкай беларускіх рок-музыкаў з праекта "Крамбамбуля". Нагадаем, што на беларускім тэлебачанні была зроблена даволі ўдалая яе версія з сімфанічным аркестрам пад кіраўніцтвам Вячаслава Чарнухі, відэакліп на гэтую песню быў прызнаны ў мінулым годзе самым лепшым. Сам з задавальненнем пачуў не так даўно "Абсэнт" на пляцоўках гандлёвага дома "Ждановічы". Кажуць, гэты твор — цяпер самы любімы ў беларускіх прадпрымальнікаў. А яшчэ слухачоў чакалі і шляхетны твор з беларускімі гістарычнымі каранямі "Пане Каханку", і "Савецкае шампанскае" ў стылі напаўзабытых ВІА, гарачая лацінаамерыканская "Тэкіла і агуард'ентэ"...

Сапраўдны фурор у зале выклікала выкананне Лявонам Вольскім знакамітай бельканта-стылізацыі «Грапа, к'янці і марціні». Тут Лявону дапамагала салістка Белдзяржфілармоніі Н. Цішко. Атрымаўся яскравы дуэт з прафесійнай спявачкай з выдатна пастаўленым голасам. "Грапа..." выклікала буру слухацкіх авацый і незабыўныя ўражанні ад новага гучання вядомага твора з "Крамбамбулі"!

Другое аддзяленне было менш акадэмічным, у ім было шмат імправізацыі, нязмушаных жартаў у выкананні іншых герояў гэтага канцэрта: А. Памідорава, С. Міхалка і А. Кулінковіча. Асабліва ўразіла імправізатарская манера Сяргея Міхалка і яго выдатнае валоданне беларускай мовай! Да таго ж, песні якія выконваў Сяргей гучалі сакавіта і з вялікім дадаткам тэатралізацыі, што вельмі імпанавала публіцы. "Старыя хіпаны", сумесная з Лявонам Вольскім песня "Госці" былі сустрэты публікай шчырымі воплескамі і воклічамі "Брава!".

душ – непаўнавартаснага Гельвера і Карлы. Я выстройваў спектакль так, што Гельвер – гэта аб'ект вырашэння яе ўнутраных праблем. А потым, у пэўны момант, яна бачыць, што гэта такая самая чалавек, богава іскра. Так, хворы, але гэта чалавек, у якога ёсць душа, і ў гэтую секунду адбываецца іх духоўнае з'яднанне. І, зыходзячы менавіта з гэтага паразумення, яна ідзе на яшчэ больш страшны грэх – забойства.

***— Ці не падаецца вам, што малая сцэна ўсё ж такі больш падыходзіць для гэтага спектакля, чым вялікая?***

— А ў выніку ён сапраўды будзе камерным, гэта ўжо вырашана. Наша вялікая зала таксама не надта вялікая, але мы ўжо другі раз сутыкнуліся на фестывалі з малой сцэнай і бачым, што гэта лепш як для акцёраў, так і для пастаноўкі.

***— Як магілёўскі глядач успрымае вашу пастаноўку?***

— Нешта пэўнае казаць пакуль рана, спектакль ішоў у Магілёве ўсяго чатыры разы. Ёсць людзі, якія могуць устаць і пайсці, але мяне гэта не хвалюе. Я разумею, што людзі, наведваючы тэатр, не заўжды жадаюць бачыць тое, што я хачу паказаць сваім "Гельверам". Некаторыя маладыя парачкі пакідаюць залу, і нельга іх вінаваціць, гэта нармальна. Прэм'ерны поспех пастаноўкі быў выкліканы хутчэй рэзанансам вакол "незвычайнага" спектакля. На маю ж думку, гэта пастаноўка не будзе касавай. Мы адыграем яе яшчэ некалькі разоў на вялікай сцэне, а потым перанясём на малую, дзе ў нас, спадзяюся, будуць аншлагі.

**Раман АЛЬШЭЎСКІ**

***НА ЗДЫМКУ:*** *рэжысёр У. Пятровіч.*

**ФОТА АЎТАРА**

А вось Аляксандр Кулінковіч сваім харызматычным панкаўскім голасам выканаў баладу з "Крамбамбуляў 1 1/2" пад назвай "Марскі чалавек". У ёй распавядаецца пра лёс беларуса, які палюбіў мора і не змог пражыць без яго. Цяпер я разумею, чаму падчас прэс-канферэнцыі на маё пытанне: "У чым бачыцца Аляксандру антыалкагольны эфект гэтай песні?", Кулінковіч адказаў: "Яна лечыць чыстаю слязой!" На канцэрце ў гэтым яшчэ раз давялося пераканацца — цудоўная мелодыка, цудоўны тэкст і выкананне.

З немалым поспехам былі выкананы і іншыя творы з новага альбома праекта "Крамбамбуля": "Работа", "Свята "Крамбамбулі"", рытм-энд-блюзавае "Безалкагольнае піва", прысвечанае пост-алкагольнаму сіндрому пасля гэтага ўвогуле бясшкоднага напою. Была выканана і цікавая інструментальная п'еса "Krambambula", у якой прыцягнулі слухацкую ўвагу віртуозныя сола на звычайнай піле ў выкананні Алеся Хаўкіна. Тут трэба адзначыць сольнае майстэрства іншых інструменталістаў праекта, якія прафесійна дапоўнілі музычную палітру канцэрта, асабліва, гітарыста С. Канановіча, бубнача А. Быкава, духавой групы гурта "Ляпіс Трубецкой", клавішніка М. Івашына з "Нейра Дзюбеля"...

На жаль, у праграме былі і не вельмі ўдалыя нумары. На маю думку, гэта адносіцца да шырока разрэкламаванай прэм'еры — сусветнавядомага хіта "Belle" па-беларуску ў выкананні трыо Вольскі-Міхалок-Кулінковіч. Гэтая версія "Belle" не ўвайшла на новы дыск "Крамбамбуляў 1 1/2" з той прычыны, што прадзюсеры не змаглі дамовіцца ні з французамі, ні з расейцамі, якія з'яўляюцца праваўладальнікамі твора на тэрыторыі СНД. Іх умова — купляйце ўсю оперу "Нотр Дам дэ Пары"! Беларусам жа сёння патрэбна была з яе толькі адна "Belle"...

На канцэрце-прэзентацыі гэты хіт быў выкананы пад фанаграму і гэта вельмі сапсавала ўражанне. Не выратавалі і спробы тэатралізацыі песні. Прэм'ера атрымалася нейкай "змазанай".

Затое, высілкамі ўсіх музыкаў праекта зусім па-новаму была інтэрпрэтавана песня "Люблю", якая ў канцэртным варыянце набыла, без перабольшвання, сапраўдны жыццесцвярджальны сэнс. Гэта адчулі мінскія слухачы, сярод якіх былі працаўнікі фірмы BELPI, якія на працягу 20 хвілін стоячы віталі апладысментамі беларускіх рок-музыкаў. А пасля масава набывалі дыскі названага праекта з улюбёнымі хітамі. Такога ажыятажу вакол беларускай дыскаграфіі даўно ўжо чакалі вытворцы беларускіх дыскаў.

Сапраўды ўдалая музычная прэм'ера, вартая каб яе пабачылі па ўсёй Беларусі, куды збіраюцца на гастролі ўдзельнікі праекта "Крамбамбуля"!

**Анатоль МЯЛЬГУЙ**

**МУЗЫКА**

# САМААДДАНАЕ SOLO

***Яе "зорны" шлях пачынаўся традыцыйна. З дзяцінства любіла спяваць, паступіла ў Гомельскае музычна-педагагічнае вучылішча, а затым быў першы курс Беларускай кансерваторыі і... вострае жаданне вучыцца з цікавасцю. Так Галіна ПАЎЛЯНОК апынулася ў Ленінградскай кансерваторыі ў класе А. Грыгор'евай.***



"Я сустрэла інтэлігентнага чалавека яшчэ старой загартоўкі, — успамінае спявачка. — Яе вучаніцы ніколі не адчувалі, што яна некага любіць больш. Яна ўсім аддавала ўвагі аднолькава. З кожнага ўрока мы выходзілі з радасцю ад таго, што даведаліся пра нешта новае. У нас быў і цудоўны канцэртмайстар — Ада Душканава. У яе сям'і нас таксама прымалі з любоўю. У камерны клас я трапіла да заслужанай артысткі К. Ізотавай, выдатнай спявачкі. Нават проста пасядзець у яе класе было вялікім задавальненнем".

Усё гэта было ў 70-я гады. Галіна Паўлянок атрымала выдатную вакальную і артыстычную школу, мастацкія прынцыпы якой беражліва захоўвае і цяпер. Бо пецярбургская школа — гэта пастаянная штодзённая праца, працэс вучобы і выхаванне асобы праз знаёмства з навінкамі літаратуры і жывапісу, сустрэчы з цікавымі людзьмі. Спявачка гаворыць: "Зусім не значыць, што я павінна працаваць толькі над шліфоўкай вакальнай тэхнікі. У чалавеку павінна быць гармонія з нечым вышэйшым. "Но видит Бог: есть музыка над нами", а я дадам: ёсць людзі, якія не толькі музыкай займаюцца, менавіта яны, як кажуць, падсілкоўваюць навакольных".

Пасля кансерваторыі Г. Паўлянок стала салісткай Новасібірскай оперы, хаця яе педагог А. Грыгор'ева казала: "Галіна, вы — спявачка тонкая, вы павінны абавязкова займацца камернымі спевамі, у вас вялікі патэнцыял". Але тады сярод маладых вакалістаў існавала пераканане, што спевакі дзеляцца на артыстаў першага і другога гатунку. Першыя спяваюць у оперы, а другія — у філармоніі.

***— Гэта потым я зразумела, што ў оперы можа спяваць і чацвёрты гатунак. Але пераканаеная, што сам падзел штучны, бо ёсць Спевакі і Вакалісты. Спявак, на маю думку, гэта Мастак, а вакаліст — звычайны рамеснік, які валодае сваім рамяством вельмі абмежавана і можа спяваць, напрыклад, у хоры і нічога больш не жадаць. Кожны музыкант хоча выказвацца індывідуальна. Гэта самае тонкае поле дзейнасці. Трэба быць самааддaным у сваім "сола", — кажа Галіна Іванаўна.***

Паралельна з операй яна спявала ў Новасібірскай філармоніі, давала канцэрты бясплатна. Самая буйная яе оперная партыя тых часоў — Любаша ў оперы М. Рымскага-Корсакава "Царская нявеста".

***— Мне падабаецца сам працэс падрыхтоўкі опернай партыі, але ў спектаклі я залежу ад многіх людзей, у прыватнасці, ад дырыжора, рэжысёра. Яны свае ідэі ўвасабляюць, а мы, спевакі-паднявольныя, не маем і права голасу. Усё гэта моцна мяне прыгнятала.***

Пяць гадоў Г. Паўлянок працавала ў Новасібірскай оперы, а затым па сямейных абставінах вярнулася ў родны Гомель. Абласная філармонія толькі стваралася тады, горад быў бедны на музыкантаў высокага ўзроўню. І дырэктар філармоніі спачатку схапіўся за галаву: "Што можна прапанаваць спявачцы такога класа? Толькі ездзіць па канцэртах у складзе артыстычных брыгад". Але паступова Г. Паўлянок пачала займацца сольнай дзейнасцю.

***— Вось гэта — маё. Я сябе называю канцэртнай спявачкай, а не камернай. Я магу спяваць усё. Што такое "камерная спявачка"? Калі так кажуць, у людзей узнікае асацыяцыя, што ў яе штосьці няладна з дыяпазонам. Камерныя вечары — зразумела, а вось камерная спявачка — не зусім. Канцэртная спявачка — гэта вельмі дакладная фармулёўка. Такая спявачка можа выступаць не толькі з канцэртмайстрам, але і з усялякімі аркестрамі ці ансамблямі.***

Галіна Паўлянок пацвярджае гэта вызначэнне ўласнай практыкай. У Гомелі яна спявае з канцэртна-эстрадным аркестрам песні М. Блантэра і беларускія песні, паспяхова выступае і з аркестрам народных інструментаў, прычым здзіўляе музыкантаў сваёй падрыхтаванасцю, арганічным адчуваннем стылю спеваў у аркестравым суправаджэнні. А ўвогуле, яна аднолькава ўпэўнена адчувае сябе і ў вакальнай мініяцюры даўніх часоў, і ў буйных творах XIX стагоддзя, і ў складаных сучасных кампазіцыях.

Так, яна мае бездакорнае адчуванне музычнага стылю. Рускія рамансы ў яе інтэрпрэтацыі гучаць не так, як музыка барока, а найскладаным іспанскім песням Э. Гранадаса — "Танадзіллям" — пашанцавала на яшчэ адну цудоўную выканаўцу, якая нібыта нарадзілася ў Іспаніі, чула гэтыя песні з дзяцінства і ўклала ў іх выкананне сапраўды іспанскі тэмперамент. Яна ніколі не спыняецца на дасягнутым і ўдакладняе:

***— Сказалі пра цябе добра, радуйся роўна 5 хвілін і пераходзь на новы этап, да новых вяршынь. Самая вялікая ўзнагарода для мяне — гэта вочы тых слухачоў, якія падыходзяць да мяне пасля канцэрта. А што я працую недарма, разумею ўжо з першага раманса, бо хачу, каб слухачы сядзелі, як заваражаныя. Апошнім часам я адчуваю, што на канцэрты прыходзяць менавіта "мой" слухач. І гэта сапраўдная ўзнагарода для артыста, калі прыходзяць, як гаворыцца, менавіта "на яго".***

А яшчэ заслужаная артыстка Беларусі Г. Паўлянок хоча, каб не было падзелу, межаў паміж артыстычнай сталіцай і так званай артыстычнай правінцыяй, бо "зоркі" ззяюць аднолькава ярка паўсюль.

Застаецца пазайздросціць слухачам вялікіх і малых залаў не толькі на Беларусі, але і за мяжой, куды выязджае артыстка Гомельскай абласной філармоніі прыкметна часцей, чым у Мінск. Бо яе канцэрт — ці то сольная праграма з піяністкай А. Афанасьевай, ці спевы ў суправаджэнні аргана знанай палачанкі К. Пагарэлай, ці выступленне ў буйным вакальна-сімфанічным творы — гэта заўсёды сустрэчы з сапраўдным Майстрам. Галіна Паўлянок сваімі спевамі дорыць нам незабыўныя імгненні адчування радасці і харавства жыцця. Яна — "зорка", якая выпраменьвае не толькі святло, але і цеплыню, ад якой усім, хто хоць аднойчы пачуў яе голас, становіцца спакойна і светла на душы.

**Таццяна ПЕСНЯКЕВІЧ**

# АДЗІНАЯ ЖАНОЧАЯ ДУША

***Споведзь трох жаночых душ пачуеш у мінорных нотах ночы, у голасе рэўнасці, у крыку цішыні, у бязмоўным агні кахання...***




Споведзь Адзінай Жаночай Душы гучыць у кожным з дзевяці рамансаў, паяднаных у тры вакальныя цыклы – своеасаблівы камерны музычны монаспектакль, прадстаўлены на новым CD, які называецца "Тихо музыка в дом мой вошла". І хаця гэтая назва – радок верша, я насмельваюся трохі яе перайначыць, вызначыўшы ўласнае стаўленне да праслуханага: "Тихо музыка в дом мой вошла..."

Ціхая музыка, як ціхі вір жаночай душы з яго нязводнымі парадоксамі – ад сусветных жарсцяў да мудрай пакоры, ад хваравітай датклівасці да мужнага трывання, ад уладалюбнага гонару да вялікадушнай спагады, ад празрыстай наіўнасці да прадоння вечнай таямніцы. Чуллівая лірыка рыфмы. Паэтызаваная проза кахання. Маркотны рамантызм хвілін, гадзін і начэй, калі застаецца жанчына сам-насам з перажытым – з пражытымі, прачутымі хвілінамі, гадзінамі, начамі.

"Одна-единственная женская душа..." – чаму гэты раманс, як, зрэшты, і ўсе іншыя, прадстаўленыя на дыску, гучыць споведдзю менавіта трох жаночых душ? Таму, што адмысловы музычна-паэтычны аповед пра каханне ды жыццё складалі тры паяднаныя творчасцю жанчыны: аўтар тэкстаў Таццяна Мушынская, кампазітар Марына Марозава ды спявачка Наталля Руднева. Рамансы, напісаныя, можна сказаць, на зломе эпох (1999-2001 гг.), знітаваныя не толькі з мінулым дваццатым і яшчэ не асвойтаным 21-м стагоддзямі, але і з ужо даволі аддаленым 19-м – яго рамантычным духам, яго традыцыйнай кранальнай эстэтыкай. Споведзь жаночай душы падтрымаў цудоўны ансамбль, так або інакш спрычыніўшыся да новай творчай працы і выпуску CD. Апроч народнай артысткі Беларусі Наталлі Рудневай, гэта заслужаныя артысты — кларнетыст Генадзь Цароў, піяністка Ларыса Максімава, Вольга Семяновіч (фартэпіяна) ды Ксенія Папова (гітара), прадзюсер М.Марозавай Уладзімір Кузьмін, дызайнер Юрый Каштанаў, мінская фірма "Ковчег". А споведзь — трэба выслухаць. Каб зразумець...

**С.БЕРАСЦЕНЬ**







# ІМЯ ЧАСУ

Юбілей вымагае кампліментаў, святочную лексіку сілкуюць гіпербалы. Але ў гэтым выпадку, віншуючы юбіляра, перабольшваць нікому не давялося: Валянцін Елізар'еў, стварыўшы свой мастацкі свет, сваё імя ў харэаграфіі, свой балетны тэатр, стварыў і свой час у гісторыі развіцця беларускай культуры.

Нацыянальны акадэмічны тэатр балета краіны адзначаў 30-годдзе творчай дзейнасці знакамітага харэографа, свайго мастацкага кіраўніка і дырэктара. Роўна столькі гадоў мінула, як у тагачасным Дзяржаўным тэатры оперы і балета Беларусі пачалася праца маладога В. Елізар'ева, цяпер народнага артыста СССР, прафесара. Працяг той працы, яе плён – у паспяховым творчым жыцці сусветна вядомага і сёння ўжо самастойнага Нацыянальнага акадэмічнага тэатра балета.

Афіцыйнай уверцюрай прагучала ўрачыстая цырымонія. Намеснік кіраўніка адміністрацыі Прэзідэнта РБ А. Пралясkоўскі зачытаў віншавальны адрас ад кіраўніка дзяржавы; віцэ-прэм'ер У. Дражын павітаў юбіляра ад імя ўрада, выказаў задавальненне тым, што 30 гадоў лёс майстра звязаны з гонарам нашай краіны, нашага народа — Акадэмічным тэатрам балета, падзякаваў за вялікі ўнёсак у беларускае нацыянальнае мастацтва. Міністр культуры Л. Гуляка падкрэсліў вартасці Елізар'ева-дырэктара, які ў фінансах разбіраецца не горш чым у творчасці. Міністр уручыў яму зацверджаную летась новую дзяржаўную ўзнагароду — Ганаровы знак (пад нумарам адзін!) за асабісты наробак у культуры і мастацтве.

Спектакль "Стварэнне свету" на музыку А. Пятрова сімвалізуе пачатак творчага шляху В. Елізар'ева, які, паводле зычлівых слоў міністра, за 30 гадоў не змяніўся навват аблічам. Гэта быў, бадай, адзіны за ўвесь вечар класічны камплімент. Бо насамрэч — і дзякуй Богу! — Валянцін Мікалаевіч, які ўзгадаваў на сваіх ( і не толькі) пастаноўках трох пакаленняў артыстаў балета, мяняўся. Мяняецца. Мастак не можа не мяняцца, пакуль ён жыве творчасцю, і гора "забранзавеламу" таленту!

"Стварэнне свету" толькі сімвалізуе пачатак стварэння ў Беларускім балеце "эпохі Елізар'ева". Бо да гэтага ўжо былі яго цудоўныя пастаноўкі "Кармэн-сюіты" ды "Камернай сюіты", а пазней — новыя мастацкія адкрыцці ў зусім розных працах: "Ціль Уленшпігель", "Спартак", "Балеро", "Карміна Бурана", "Рамэо і Джульета", "Вясна свяшчэнная", "Шчаўкунчык", "Страсці" ("Рагнеда"), "Спячая прыгажуня"... Елізар'еў мяняецца, сталее, мудрэе разам з артыстамі ды са сваёй публікай. Дзеліцца ўласнай унутранай свабодай, душэўнай энергіяй вечна захопленага творцы. І гледачы ўжо чакаюць замоўленую на сёлетні сезон прэм'еру балета "Клеапатра".

А ў той вечар паказалі "Стварэнне..." — спектакль, які ў большасці заўзятых прыхільнікаў нашага балета асацыіруецца менавіта з яго імем і з яго часам. Аб'ектыўны час, дарэчы, адбіўся на колішняй тэатральнай сенсацыі. Вітаеш новыя постаці ды твары: У. Дапіх (Адам), Л. Кудраўцава (Ева), А. Краўчанка (Бог), А. Бубер (Д'ябал). Заўважаеш: як пасівеў маэстра Л. Лях! Дапускаеш і крамольную думку: маўляў, таленавітыя стваральнікі сцэнічнага відовішча ўзнялі на пэўны мастацкі ўзровень музычную аснову, якая сама па сабе глыбокага ўражання не робіць. Захапляешся празорлівасцю Яўгена Лысіка, чые дэкарацыі стасуюцца з цяперашнім візуальным светам (а прыдуманы мастаком сцэнічны вобраз, касцюм, грым Д'ябла, плюс пластычнае аблічча персанажа, перагукаюцца з актуальным абстрактна-абагульненым "камп'ютэрным Злом").

Пасля спектакля віншаванні працягваліся. Слоў амаль не было. Толькі кветкі, кветкі. Ды яшчэ памятная "манета на шчасце" — з новай серыі, выпушчанай Нацбанкам Беларусі: на адным баку — сцэна са спектакля "Страсці"("Рагнеда"), на другім — выява будынка Вялікага тэатра оперы і балета...

Герой імпрэзы, сціплы, расчулены і нешматслоўны, выказаў сваю ўдзячнасць адной фразай: "Дзякуй, тэатр, дзякуй, публіка, дзякуй, Беларусь!" Потым дадаў: "Вось і скончыўся вечар. Мабыць, самы галоўны вечар... Для мяне..."

С.БЕРАСЦЕНЬ









ФОТАРЭПАРТАЖ
Міколы ЗАМУЛЕВІЧА



# ФАЛЬКЛАРЫСТ-ЭНЦЫКЛАПЕДЫСТ

Пераканаы, што кожны з чытачоў адразу здагадаецца, пра каго ідзе гаворка — канечне пра Янку Саламевіча, бо такі ў нас толькі адзін. Як у нас толькі адзін таксама паэт-фальклярыст — Ніл Гілевіч. От жа бывае, што "Бог няроўна дзеліць" — аднаму чалавеку часам дае таленту за многіх! У гэтым сэнсе беларускай фальклярыстыцы пашчасціла, бо былі яшчэ і вялікія беларусы-фальклярысты XX стагоддзя Рыгор Шырма і Генадзь Цітовіч, ёсць прафесар-фальклярыст Варшаўскага універсітэта Алесь Баршчэўскі. У гэты рад упісана і імя фальклярыста, літаратуразнаўцы, перакладчыка і бібліёграфа Янкі Саламевіча. Да таго ж, ён ніколі не адрываўся ад роднай глебы: бываў сватам на шматлікіх вяселлях, па сведчанні студэнтаў філфака БДУ спяваў ім песні-ілюстрацыі на лекцыях па фальклоры 1977 — 1987гг., фанатычны грыбнік, які не імкнуўся выскачыць за мяжу, а заўсёды спяшаўся ў родную вёску, каб дапамагчы ў цяжкай сялянскай працы. У гэтым сэнсе яны падобныя з варшаўскім беларусам Алесем Баршчэўскім.

Калі ўглядзецца ў яго адкрытае, разважлівае, удумнае аблічча, на памяць прыходзіць "тэрмін" 30-х гадоў "шчырасць" — адметная нацыянальная рыса сапраўдных беларусаў, якой так баяліся паслядоўнікі правадыра нацыянальнай палітыкі на Беларусі і які адразу прыклейвалі як "ярлык для выбракоўкі". Час змяніўся, але шчырасць і памяркоўнасць беларуса дае яму сілы працаваць дзеля Бацькаўшчыны, падымаць нашу нацыянальную годнасць. Родны фальклор, які літаральна перакладаецца з ангельскай як "мудрасць народа", — шчасліва выбраны жыццёвы накірунак працы Янкі Саламевіча, які дапамог яму ў складанейшых жыццёвых абставінах прыйсці да шырокай, энцыклапедычнага ўзроўню навуковай эрудыцыі і не адарвацца ад роднай глебы.

Нарадзіўся Іван Саламевіч у вёсцы Малая (яна ўжо зраслася з Вялікай) Кракотка (назва звязваецца з кракам — чорным воранам) цяперашняга Слонімскага раёна 29 кастрычніка 1938 года ў вялікай, нават па мерках таго часу, сялянскай сям'і: у шчаслівага хлопца-першынца было аж шэсць братоў і самая малодшая — сястра. Вось ужо сапраўды сямёра братоў і царыца Тамара! Бацькі, мудрыя беларускія сяляне, заахвочвалі, нягледзячы на цяжкі пасляваенны час, дзяцей да ведаў (сястра, як і старшы брат, у 1984 годзе таксама закончыла універсітэт).

У часы дзяцінства Янкі на Слонімшчыне была яшчэ моцная традыцыя магутнай хвалі нацыянальнай культурна-асветнай працы Заходняй Беларусі, якая была перарвана прыходам бальшавікоў у 1939 (ведаю гэта ад свайго хроснага "дзядзькі Рыгора" — Шырмы, які арганізоўваў гэтую незвычайнага размаху і накалу працу як сакратар Галоўнай управы Таварыства беларускай школы ў 20 — 30-я гады). У змястоўным артыкуле "Лягла песня на душу" Валянціна Трыгубовіч (гл. зборнік "Так мы жывем".Мн.,1984) прыводзіць цікавы ўспамін Янкі Саламевіча:

"Да таго ж (што лічу вельмі важным) у маіх родных мясцінах ці не з 20-х гадоў былі моцныя асветніцкія традыцыі. Я яшчэ застаў людзей, якія ў 1927 годзе ставілі ў Кракотцы "Паўлінку", быў проста ў захапленні ад энтузіязму і перакананасці настаўніка Васіля Трафімовіча (стары ён цяпер, вядома, а тады быў зух: за адзін дзень "збегаў" у Слонім, гэта кіламетраў 30 у адзін канец, выпрасіў ва ўлад дазвол на пастаноўку і ў той жа вечар выконваў сваю ролю на сцэне). І калі я вучыўся ў школе — пасляваенныя ўжо гады, — у нас была нeблагая мастацкая самадзейнасць. Па чатыры п'есы ў год ставілі. Я гатовы быў днямі прападаць у гуртках.

Ненатольная прага ведаць больш, лепш, глыбей прывяла пасля школы ў Мінск, на філфак універсітэта, потым была аспірантура, кандыдацкая дысертацыя "Міхал Федароўскі — фальклярыст"... Між іншым, некаторыя запісы з маіх збораў надрукаваны ў акадэмічных выданнях. У томе, прысвечаным вяселлю, напрыклад, ёсць апісанне колішняга ваўкавыскага вяселля, знайшоў гэты рукапіс у бібліятэцы Варшаўскага універсітэта" (заўважым, што запісы фальклярыста ўвайшлі таксама ў тамы "Прыказкі і прымаўкі", "Выслоўі", "Дзіцячы фальклор" цяпер ужо 46-томнага Зводу "Беларуская народная творчасць").

Такім чынам, пасля закачэння філфака БДУ ў 1960 годзе і аспірантуры, (дысертацыя будзе абаронена ў 1971 годзе, а



манаграфія па ёй будзе выдадзена ў 1972 годзе) Янка Саламевіч становіцца і застаецца да нашага часу адным з галоўных заснавальнікаў і супрацоўнікаў самага аўтарытэтнага на Беларусі выдавецтва Беларуская Энцыклапедыя.

Унікальна па сваёй сутнасці працаёмкая работа навукоўца 1983 года "Слоўнік беларускіх псеўданімаў XVI — XX стст.", над якім ён працаваў каля 20 год і дзе адпаведна народнай традыцыі (і цяпер аўтара гэтых радкоў у роднай вёсцы ведаюць толькі па прозвішчы роду маці — Белавусы) пададзена каля чатырох тысяч прозвішчаў. Вось як красамоўна апавядае аб ёй Янка Саламевіч: "Я меў асалоду ад кожнай знаходкі... Што б я ні чытаў, варта сустрэць нейкую дэталь, якая мае дачыненне да псеўданімаў, яна адразу запішацца на картку. Потым будзе суаднесена з іншымі фактамі... Патрэба ў такім выданні наспела ўжо даўно. Я ў гэтым пераканаўся, калі ўжо меў ладную калекцыю псеўданімаў і крыптанімаў.

Адусюль звярталіся па параду і з просьбай дапамагчы ўстанавіць аўтарства тэкстаў літаратары, гісторыкі, мовазнаўцы... Ці ведалі мы раней, што Зміцер Жылуновіч (Цішка Гартны) выступаў пад 121 псеўданімам? Калі выдаваў "Дзянніцу", фактычна ўсё рабіў сам, а подпісы былі розныя. Іван Луцэвіч (Янка Купала) меў 44 псеўданімы, Кастусь Міцкевіч (Якуб Колас) — 59, Ілля Ляўковіч (Галляш Леўчык) — 31, Леапольд Родзевіч — 42... Часам з-за супадзення, асабліва ў крыптанімах (гэта калі подпіс складаецца з 2-3 літар), аўтарства прыпісваюць іншай асобе."

Ніводзін фальклярыст Беларусі не абыходзіцца без складзенага Саламевічам бібліяграфічнага даведніка "Беларускі фальклор.1926 — 1963", які прадоўжыў папярэднюю ў гэтым сэнсе працу Аляксандра Шлюбскага, а разам з аналагічнай працай Грынблата даюць панараму ўсёй бібліяграфіі беларускай фальклярыстыкі. Фальклорныя зборнікі "Беларускія загадкі" і "Мама-мышка сушыла шышкі. Беларускія народныя скорагаваркі" дапаўняюць яго творы "Помнік народнага мудраслоўя", "Праз гады", вучэбны дапаможнік "Беларуская дзіцячая літаратура.Хрэстаматыя"(у сааўтарстве), літаратуратуразнаўчыя працы як укладальніка: "М. Гарэцкі. Успаміны, артыкулы, дакументы" (з Арсенем Лісам); Янкі Купалы "Вершы і паэмы"(на рус. мове); *Галляша Леўчыка* "Доля і хлеб"; М.Арла "Лірнік"; "П'есы XIX — XX ст."; выбраныя творы Яна Чачота "Свіцязь".

Янка Саламевіч пераклаў на беларускую мову манаграфію "Беларуская казка" і паказальнік "Сюжэты і матывы беларускіх народных казак" Льва Барага, падручнік «Гісторыя беларускай савецкай музыкі», кнігу Міхала Федароўскага «Люд беларускі: Вяселле», аповесць "Адысей з Беларусі" Гузанава, "Успаміны пра Тышкевічаву Свіслач, Дзярэчын і Ружаны" Патоцкага, раман "Зверабой" Купера і "Блукаючыя зоркі" Шолам-Алейхема (з Генадзем Шупенькам). Ён удзельнічаў у выданні літаратурна-мастацкіх календароў "Кола дзён" і склаў "Каляндар памятных дат 2001", з 1979 па 1988 год цікава вёў тэлечасопіс "Роднае слова". Выдатны вучоны-энцыклапедыст, якому за ўдзел у стварэнні Беларускай энцыклапедыі ў 1976 годзе была прысуджана Дзяржаўная прэмія Беларусі, цяпер зноў сабраў цвет беларускай навукі на стварэнне двухтомнага энцыклапедычнага слоўніка "Беларускі фальклор".

Добрага вам здароўя, шаноўны калега, плёну ў гэтай і іншых вашых высакародных справах! Калі ўспомніць назву вашай роднай вёскі, то дзякуй вам за тое, што вы так моцна і шматгранна "кракнулі" аб велічы і прыгажосці нашага народа на ўвесь свет!

**Васіль ЛІЦЬВІНКА**

# ЛЕКЦЫІ ЧЫТАЕ САМ ШТЭЙНЕР



Нас звёў лёс, калі кожнаму было крыху больш за семнаццаць.

Студэнтамі-першакурснікамі мы з Ванем Штэйнерам вячэрнім цягніком прыбывалі ў родны яму Столін. А недзе ў гадзіну ночы ў перапоўненым давыдгарадоцкім аўтобусе я ўглядаўся і ўслухоўваўся ў нязвыклы для мяне, але вельмі цікавы, паляшуцкі свет.

Менавіта тады ўпершыню ў сваім жыцці я быў сведкам усяночнай, а раніцай і днём мы святкавалі Вялікдзень.

Так прыгожа, чыста і ўрачыста пачыналася на ўсё жыццё маё сяброўства з Іванам. Гэта сёння найбольш глыбока і поўна ўсведамляюцца незабыўныя пушкінскія радкі: "Мой первый друг, мой друг бесценный..." Якраз вераснёўскімі днямі нашаму сяброўству лёс налічыў цэлых трыццаць тры гады.

Калі ў 1979 годзе (бываюць жа такія супадзенні!) у нашай сям'і нарадзіўся сын, без асаблівых развагаў ён быў названы таксама Іванам. І як прыемна ўсведамляць, што сёння абодвы Іваны (і старэйшы, *і малодшы*) сур'ёзна *і апантана* служаць роднаму слову і нашай беларускай літаратуры.

Юнацкія, студэнцкія гады жыцця ўвабралі ўсё: страснае захапленне жыццём, апантаную прагу ведаў, рамантыку студэнцкіх будаўнічых атрадаў, несціханыя ніколі днём і, асабліва, вечарам літаратурныя спрэчкі. Гаварылі за ўсіх паэтаў і празаікаў, але "святыя" былі ў кожнага свае. Ваня Штэйнер жыў Хемінгуэем і Быкавым, Ваня Зяньковіч — Сянкевічам і Якімовічам, Гена Праневіч — Вярцінскім, Коля Зуеў — Пысіным, Вася Сахарчук — Вылчавым і Семашкевічам, я — Лоркам і Барадуліным.

Ваня Штэйнер днямі, тыднямі і нават месяцамі не выходзіў з "Ленінкі". Ці не таму многія універсітэцкія выкладчыкі рэдка бачылі яго на сваіх лекцыях і, зусім верагодна, знаёміліся з ім толькі на заліках і экзаменах, якія ён заўсёды здаваў толькі на "выдатна". Ці не таму сённяшні Іван Фёдаравіч Штэйнер, доктар філалагічных навук, прафесар, аўтар шматлікіх вядомых кніг і публікацый, той універсітэцкі выкладчык, на лекцыі якога студэнты ходзяць заўсёды. Не так даўно ў адной лімаўскай публікацыі сярэдніх гадоў пісьменнік, былы ягоны студэнт, прызнаваўся: "У нас літаратуру чытаў сам Штэйнер". Гэтак мы, колішнія студэнты БДУ сямідзесятых гадоў, расказваем сваім вучням пра слынныя лекцыі-шэдэўры Алеся Адамовіча, Вячаслава Рагойшы, Адама Супруна... І ўвогуле, Іван Штэйнер не мае ніякіх параўнанняў з тымі сённяшнімі дактарамі і прафесарамі, якія на трэцім курсе навучання не маглі напісаць самастойна курсавую работу па творах Івана Шамякіна.

Не буду перабольшваць, але мне таксама прыходзілася чуць ад сваіх былых універсітэцкіх выкладчыкаў аб тым, што кафедра *беларускай літаратуры* Гомельскага дзяржаўнага універсітэта, якую ўжо многа гадоў узначальвае Іван Фёдаравіч, лічыцца лепшай у Беларусі.

На маю думку, лепшымі ў нашай сучаснай беларускай літаратурнай крытыцы з'яўляюцца літаратуразнаўчыя працы І. Штэйнера пра паасобныя творы Васіля Быкава і славянскую баладу. Даследчык заўсёды востра бачыць і аналізуе змест, стыль і мастацкія асаблівасці твора. Надзвычай цешыць чытача энцыклапендычная дасведчанасць Івана Фёдаравіча. А трапнасць яго выказванняў і нечаканая, і вельмі арыгінальная. Калісьці Максім Багдановіч пашыраў фармальныя пошукі беларускай паэзіі ў еўрапейскім кантэксце. Сённяшнія даследаванні прафесара Штэйнера плённа ўвязваюцца ў еўрапейскі літаратуразнаўчы кантэкст. І яшчэ важным з'яўляецца той факт, што шаноўны Іван Фёдаравіч актыўна ўдзельнічае ў абаронах дысертацый і многа-многа працуе з тымі, хто заўтра-паслязаўтра будзе вызначаць узровень нашай беларускай літаратуразнаўчай навукі.

Калі-нікалі мы сустракаемся на яго роднай Гарыні (пра адзін з эпізодаў тых сустрэч неяк я расказаў у юбілейным нумары "ЛіМа"). А зусім нядаўна, вясною, мы сядзелі з Іванам на беразе ўжо маёй роднай Бярэзіны. Гаварылі, думалі, успаміналі, перагортвалі старонкі жыццёвай кнігі. Так, многа напісана ў ёй старонак, прычым часам як цікавых і захапляльных, так і няпростых, драматычных. Тады не паспелася ці не здолелася сказаць нешта важнае і галоўнае свайму сябру. Таму лёгка прамаўляецца сёння: "Дарагі мой Іван, няхай і далей на сённяшнім залатым тваім гасцінцы будуць мары, надзеі, здзяйсненні, якія занатуюцца на шматлікіх чыстых старонках тваёй слыннай кнігі жыцця!"

**Уладзімір ЛАЙКОЎ**
**з-пад Барысава**

**Саюз беларускіх пісьменнікаў выказвае глыбокае спачуванне сябру Рады СБП, кіраўніку літаратурнага аб'яднання "Літаратар" пры Саюзе пісьменнікаў Алесю Герасімавічу МАСАРЭНКУ з прычыны смерці маці — Евы Мікалаеўны.**

# ПАШЧАСЦІЛА БЫЦЬ ЯГО ВУЧНЯМІ

**Вечар памяці знакамітага акцёра, рэжысёра, тэатральнага педагога, народнага артыста Беларусі, прафесара Дзмітрыя Аляксеева Арлова (26.09.1903—18.06.1969) адбыўся ў Вялікай зале Студэнцкага тэатра Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў 6 кастрычніка. Напачатку былі прадэманстраваны знятыя на кінастужку ўрыўкі з роляў, сыграных Д. Арловым, — найбольшую славу прынесла акцёру выкананне ролі гаўляйтэра Вільгельма фон Кубэ ў папулярным фільме пра Вялікую Айчынную вайну "Гадзіннік спыніўся апоўначы". Уступным словам вечар адкрыў рэктар БДАМ, прафесар Р. Смольскі. Далейшую частку сустрэчы былых вучняў Д. Арлова, студэнтаў Акадэміі, паклоннікаў таленту вялікага чалавека вёў заслужаны артыст РБ, прафесар, выкладчык акцёрскага майстэрства БДАМ і некалі проста яго вучань Ф. Варанецкі.**



**Сваімі ўспамінамі дзяліліся мастацтвазнаўца А. Лабовіч, заслужаныя артысты РБ Ж. Зарэмба, Э. Гарачы, В. Анісенка, С. Акружная, прафесар Карлава універсітэта Ю. Сохар, народная артыстка СССР А. Шах-Парон,загадчык кафедры рэжысуры БДАМ, вядомы рэжысёр Р. Баравік і іншыя. Завяршыўся вечар выступленнем дачкі Д. Арлова, прафесара Таццяны Арловай, разам з якой на сцэну выйшлі яе сястра Соф'я, сын і і ўнучка. Мастацкая частка сустрэчы была прадстаўлена выступленнямі студэнтаў і маладых акцёраў: выканаўца галоўнай ролі ў гістарычным фільме "Анастасія Слуцкая" С. Зелянкоўская праспявала беларускую народную песню "Весялосць", студэнты В. Скварцова і Р. Падаляка выканалі танцавальную сюіту "Яблынька", сцэнку "Ехаў дзедка на кірмаш" разыгралі выхаванцы выдатнага педагога А. Каляды Ю. Кадушкевіч і Ю. Сядлецкі, эцюд "Ах, і патанчым" паказалі студэнткі В. Яленская і В. Пляшкевіч, песню "Памяць" з мюзікла "Кошкі" выканала студэнтка А. Дуброўская, спявалі таксама студэнты БДАМ В. Чайлытка, А. Сянкевіч. Запомніўся прысутным эцюд "Варона і лісіца" ў выкананні С. Чуба, М. Зуя і П. Яскевіча, які сёлета атрымаў узнагароду Усерасійскага конкурсу "Вясёлая каза".**

**Святлана САЧАНКА**

## ЗАПРАШАЕМ!

**13 лістапада Саюз беларускіх пісьменнікаў разам з філфакам Белдзяржуніверсітэта праводзяць прэзентацыю гістарычнага рамана Васіля ЯКАВЕНКІ "Надлом".**

**Вечарына адбудзецца ў вялікай зале Дома літаратара — Мінск, вул. Фрунзе, 5.**

***Пачатак а 18 гадзіне.***

●

**Кіраўніцтва Саюза беларускіх пісьменнікаў паведамляе аб аднаўленні працы бібліятэкі СБП (Дом літаратара, вул. Фрунзе, дом 5). Кніжны каталог абслугоўваецца з 11.00 да 17.00 штодзённа (акрамя суботы і нядзелі).**



**Хведар ЖЫЧКА**

ЗГАДКІ

# БЫЛО І ТАКОЕ...



## ВЫШЭЙШАЙ НЯМА ЎЗНАГАРОДЫ...

Напачатку — два гістарычныя факты: першы — зімой 1941—42 гг. славянскі паэт Уладзімір Паўшыц у падпольнай друкарні пад псеўданімам Матэй Бор выдаў





зборнік антыфашысцкіх вершаў "Перасілім буру".

Другі факт — у снежні 1943 года Слуцкая падпольная газета "Народны мсцівец" тыражом 1000 экземпляраў выдала зборнік вершаў паэта Анатоля Астрэйкі "Слуцкі пояс", кожны радок якога заклікаў змагацца з фашысцкімі захопнікамі.

Першы факт стаў здабыткам гісторыі сусветнай літаратуры, пра яго ведаюць не толькі літаратуразнаўцы, але і многія аматары паэзіі, чытачы. Пра другі факт наўрад ці чулі ўсе студэнты філалагічных факультэтаў беларускіх універсітэтаў. Чаму?

Якраз вось гэтае пытанне задавалі мне трыццаць гадоў назад замежныя журналісты. Адказаць на яго, як і тады, не магу і цяпер. Даводзіцца спасылацца на нейкую нашу незвычайную сціпласць, нежаданне выхваляцца.

Аўтар кніжкі-партызанкі "Слуцкі пояс" Анатоль (Акім Пятровіч) Астрэйка не быў дужа сціплым чалавекам, але і не хвалько. Прыняты перад вайной у Саюз пісьменнікаў СССР, па стане здароўя меў права на "адсідку" ў Маскве, а ён ірваўся да партызан, пераходзіў лінію фронту праз "Віцебскія вароты" да мсціўцаў злучэння Бацькі Міная і другі раз паляцеў самалётам у Слуцкія лясы да легендарнага Васіля Іванавіча Казлова.

Пасля вайны ён не займаў высокіх пасад, не меў пачэсных званняў, не любіў выступаць на сходах. А яго ведала ўся творчая і нятворчая інтэлігенцыя — вучоныя, журналісты, педагогі, акцёры і мастакі. З раніцы да вечара песні на яго словы гучалі па радыё, асаблівай папулярнасцю карысталася песня Нестара Сакалоўскага "Нёман" у выкананні Мікалая Ворвулева з яго акцэнтнай канцоўкай — "твае расцвялі берагі..."

Анатоль Пятровіч не меў добротнага адзення і абутку, але яго ўсюды ахвотна прымалі, бо ён заўсёды прыносіў вясёлы настрой, любіў расказваць анекдоты, чытаць свае эпіграмы, гумарыстычныя вершы. Праўда, новага ў ягоным рэпертуары было мала, але чытаў ён і расказваў класна — без цэнзурных пропускаў і розных там сінонімаў: усё "па-сялянску" адкрыта, напрамую. І ў рэстараны хадзіць не любіў, праўда, і ніколі не адмаўляўся, калі запрашалі на які банкет ці іншую ўрачыстасць. Калі ж бачыў, што чалавек збіраецца патраціць свае грошы, спыняў яго:

— Навошта табе той рэстаран? Не пагаворыш там, не вып'еш. Лепш хадземце да мяне. Во і блізка, і вольна. Закусь? Кінь ты! У мяне — мора закусі...

Гэтае ягонае "мора закусі" перайшло ў анекдот, бо заўсёды сабой уяўляла недаедзены хвост селядца. Ідучы да яго ў госці, мы стараліся нешта прыхапіць на закусь: колца кілбасы, бляшанку кансерваў ці яшчэ чаго. У застоллі Анатоль Пятровіч мала піў і амаль нічога не еў — любіў паслухаць новы дасціпны анекдот ці вострую эпіграму, расказаць пра свае партызанскія прыгоды. Мы слухалі і дружна смяяліся не таму, што яны былі дасціпныя, а наадварот — што ведалі, чым скончацца, бо слухалі ўжо далёка не першы раз.

Слухаючы Астрэйку, складвалася ўражанне, што ён ведае на памяць усе свае творы. Але я ніколі не чуў, каб ён імі выхваляўся, лічыў іх шэдэўрамі. Наадварот, яму была характэрная нейкая недаацэнка сваёй творчасці, самапрыніжэнне яе. Напісаную яшчэ ў час вайны паэму "Прыгоды дзеда Міхеда" ён пратрымаў у шуфлядзе свайго стала амаль дзесяць гадоў і, каб не настаялі выдаўцы, наўрад ці асмеліўся б выдаць. І якраз гэты твор стаў адной з самых любімых дзецьмі кніжак.

Як і прасторная кватэра ў Мінску, гасцінным быў і дачны ўчастак Анатоля Астрэйкі на Лысай гары. Вядзьмак Лысагорскі так апісаў будаўніцтва яго дачнага доміка:

*Астрэйка, той, што ў сотнях песняў*
*уславіў некалі будан, —*
*за кожнай кроквай клікаў цесляў:*
*"Ну злазьце, хлопцы, кроплю дам".*

Суседзямі Астрэйкі па дачы аказаліся людзі не ягонага тэмпераменту, таму Анатоля Пятровіча часцей за ўсё можна было бачыць каля дамкоў Алеся Звонака, Станіслава Шушкевіча, Анатоля Вялюгіна, Міколы Аўрамчыка, Рыгора Няхая, дзе ішлі іншыя, весялейшыя гаворкі, нараджаліся радкі будучай "Лысагорскай паэмы".

Анатолю Астрэйку мала давялося адпачываць на дачы. Неўзабаве ён цяжка захварэў, вымушаны быў жыць у сталіцы — бліжэй да бальніц, аптэк. 23 жніўня 1978 года ён памёр. І тады раптам усе ўспомнілі і пра яго партызанскія подзвігі, і пра ягоную кніжку-партызанку "Слуцкі пояс". Некралог падпісалі П. М. Машэраў, І. Я. Палякоў, Ц. Я. Кісялёў, А. Т. Кузьмін і інш.

У 1943 годзе А. П. Астрэйка пісаў:

*Вышэйшай няма ўзнагароды*
*Героям Айчыннай вайны,*
*як чэсць і любоў ад народа,*
*ад роднай сваёй стараны.*

Мала ўжо, зусім мала засталося людзей, якія помняць гэтага выдатнага беларускага паэта, цудоўнага і мужнага чалавека — Анатоля Астрэйку.

## «ПАД АХОВАЙ ЦЯНІСТЫХ ПРЫСАД...»

Усім вядома, што пісьменнікі не ўмеюць арыгінальна падпісваць сваіх кніжак, дорачы іх сябрам ці чытачам: далей шаблонных "на добрую згадку", "ад шчырага сэрца", "з найлепшымі пажаданнямі" мала хто ідзе. А гэты падарункавы надпіс на кніжцы "Трывожная госця" зусім дзіўны: "Нашаму паэту... (майму хросніку) і амаль майму земляку, а яшчэ і майму рэдактару. Шчырапрыязна Аляксей Зарыцкі 13.7.1986", — нейкія рэбусы. А між тым, усё тут правільна.

У аўтабіяграфіі "Некалькі слоў пра сябе" Аляксей Аляксандравіч Зарыцкі піша: "Нарадзіўся я 22 сакавіка 1911 года ў глухім мястэчку Хоцімск. Ранняе дзяцінства прайшло недалёка ад Жлобіна ў Астэрманску, дзе бацька працаваў акцызным кантралёрам на вінакурным заводзе". (Цытую з рукапісу, які захоўваецца ў маім архіве.)

Пасля рэвалюцыі ў былым фальварку пана Друцка-Сакалінскага Астэрманск (у нас казалі "Асцерманск" ці "Астрыманск") беззямельныя сяляне, сярод якіх былі і мае бацькі, арганізавалі камуну "Ветэран", пасяліліся ў панскім палацы. Праз некалькі гадоў, калі на добра ўгноеных панскіх землях арганізавалі нейкую доследную гаспадарку, сялян выселілі ў Мышоўскі лес, дзе яны пабудавалі сабе хаты і свайму пасёлку далі касмічную назву — Марс.

Такім чынам, з Зарыцкім нараджаліся мы ў розных мясцінах і жылі на Жлобіншчыне ў розныя часы — таму і "амаль земляки".

У вёсцы Асцерманск (яе перайменавалі ў Эрштэрмай, што па-яўрэйску азначае Першамай) была пачатковая школа, якую я скончыў. Вінакурны завод перакантрукавалі, зрабілі крухмальным. Настаўніца часта вадзіла нас на экскурсію, і мы бачылі, як добра вымытую бульбу пераціраюць механічныя таркі, як з той перацёртай масы адмываецца крухмал, сушыцца і становіцца бялюткай рыпучай мукой... Зарыцкія ўжо не жылі ў нас, бо сама сабой адпала патрэба ў акцызніку.Стаяў толькі дом пад гонтай, дзе жыла яго сям'я. У хуткасці і ён знеслі...

Вядома, атрымліваючы адказы з рэдакцыі з яго подпісам, я ўважліва сачыў за творчасцю Аляксея Зарыцкага, чытаў усё напісанае ім: вершы, паэмы, пераклады, артыкулы. Асабліва запомніўся яго верш "Лебедзі": калі я праходзіў каля таго фантанчыка з гіпсавым хлопчыкам, які абдымае лебедзя, кожны раз успаміналіся меладычныя радкі:

*Шуміць каля вуліцы Энгельса сад,*
*там ліпа, таполя, каштан,*
*там, пад аховай цяністых прысад*
*пляскоча фантан.*

Дарэчы, і з той, ужо не "малой дачкой" паэта, якая ў 1947 годзе крышыла "каменнаму лебедзю" хлеб, Таццянай Аляксееўнай давялося працаваць разам у выдавецтве "Мастацкая літаратура".

А "хроснікам" Аляксея Зарыцкага я стаў тады, калі з Балтыкі пасылаў у "Полымя" свае вершы, а ён прысылаў мне адказы, называючы мяне па-беларуску Хвёдарам. Так і замацавалася маё літаратурнае імя.

Часта сыходзіліся нашы творчыя пуцявіны і на ніве паэтычнага перакладу. Даведаўшыся, што я зацікавіўся сербалужыцкай літаратурай, ён падарыў мне два невялічкія антапагічныя зборнікі сербалужыцкай паэзіі, кнігу выбраных твораў Гандыя Зейлера і кнігу сваіх перакладаў "У свет па песні", на якой напісаў: "З надзеяй атрымаць ад яго кнігу вершаў сербалужыцкіх паэтаў, зразумела, у ягоных перакладах".

Ёсць у мяне і двухтомнік выбраных твораў Аляксея Зарыцкага з такім надпісам:

*"Хай імжыць імжа-імжычка,*
*вее вецер снегавы,*
*стой, матрос адважны Жычка,*
*на пасту, як вартавы.*

**Аляксей Зарыцкі.**
**7.V.1970".**

## «ДА ЛЮДЗЕЙ ПРЫЙСЦІ ДАБРАДЗЕЯЙ...»

Помню, як яна ўпершыню завітала ў выдавецтва — маладая, прыгожая, жыццярадасная. Прынесла не толькі рукапіс сваёй першай кніжкі "Станцыя надзей", але і нязычны для строгіх выдавецкіх рэдактараў вясёлы настрой.

У той час вершы Нэлі Тулупавай ужо друкаваліся ў рэспубліканскіх газетах і часопісах, яны былі такія ж шчырыя і вясёлыя, як і сама паэтэса:

*Галалёдзіца. Бярозы*
*Да ялінак туляцца,*
*Што надзелі ад марозу*
*Футры ўсцяж па вуліцы.*
*Не магу ступіць ні кроку:*
*Ногі раз'язджаюцца.*
*А хлапцы непадалёку*
*Кураць, пасміхаюцца:*
*— Эх шкада нам гэтых ножак.*
*Упадзеш, кірпатая...*
*Пачакай, дайсці паможам*
*І хлапца сасватаем!*
*— Вас мароз не апякае? —*
*Языкі застудзіце!..*
*Як з такімі языкамі*
*Сватацца вы будзеце?!*

Былі ў яе, вядома, і "сур'ёзныя" вершы. За плячамі ў паэтэсы быў пэўны жыццёвы і творчы вопыт. Яна скончыла Гомельскае медыцынскае вучылішча, завочнае аддзяленне факультэта журналістыкі БДУ, працавала фельчарам і акушэркай, дыктарам Віцебскага абласнога тэлебачання, інструктарам Дома культуры, камсамольскім работнікам, рэдактарам газеты Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі... І пісала, пісала. Яе творы гучалі па радыё, з эстрады, былі вядомы і крытыкам, і аматарам паэзіі. Таму ніякіх праблем пры ўключэнні ў план кнігі паэзіі Нэлі Тулупавай не ўзнікала.

У пачатку сямідзесятых гадоў яна пераехала ў Мінск, працавала загадчыкам рэпертуарнага аддзела Белдзяржфілармоніі, пакуль сябры-паэты не пераманілі яе ў выдавецтва "Мастацкая літаратура" на пасаду старшага рэдактара перакладной літаратуры.

Амаль цэлае дзесяцігоддзе працавалі мы разам, рэдагуючы творы універсальных паэтаў-перакладчыкаў, якія налаўчыліся пры дапамозе падрадкоўнікаў "пераствараць па-беларуску" напісаныя (і не напісаныя?) на любой мове творы. Рэдагаваць такія пераклады — праца даволі рызыкоўная, бо і рэдактар не можа ведаць усіх моў свету, даводзіцца давяраць інтуіцыі...

У выдавецтве існавала традыцыя — адзначаць юбілейныя дні нараджэння ўсім калектывам, дарыць юбіляру адрас з гумарыстычнымі вершамі. 1-га лютага 1988 г. Нэлі Іванаўне спаўнялася 50 гадоў. Пісаць верш для адраса выпала мне. Але ніякага гумару ў мяне не атрымалася — я ўявіў яе дзяцінства, жыццё ў вёсцы пад Рэчыцай, пажадаў "восеньскіх дзён залатых" і яснага неба. Юбілярцы чамусьці спадабаўся мой верш, і пад назвай "Даспелая ніва калоссем звініць" з прысвячэннем, я ўключыў яго ў свой чарговы зборнік "Яшчэ адзін ракос".

Ёсць у Нэлі Тулупавай невялікая, але змястоўная, напісаная шчырым сэрцам паэма "Дабрадзея". Паэма прысвечана бабулі Вулляне Пугачовай, вясковай руплівіцы і знахарцы, якая жыве адным клопатам — дапамагаць людзям. Я люблю перачытваць гэту паэму, бо сапраўднай гераіняй яе бачу не бабулю Вулляну, а саму Нэлю Іванаўну Тулупаву (Лістоўскую), якая ўвесь свой талент, усе веды, усю дабрыню аддала людзям.

## ШЧЫРАЯ МАЛАДОСЦЬ

Не стала Артура Вольскага... Гэтая сумная вестка ніяк не ўкладваецца ў маё ўсведамленне, у маю рэчаіснасць, у схему асэнсавання жыцця, у бескантрольную плынь успамінаў. Больш за паўстагоддзя ішлі нібыта разам, не губляючы адзін аднаго з відавоку. І раптам — пайшоў... навечна... назаўсёды.

Для нас, маладых пісьменнікаў, якія ўваходзілі ў літаратуру на пачатку пяцідзесятых гадоў мінулага стагоддзя, Артур Вольскі быў больш, чым сябар па пяры — ён быў амаль нашым кумірам. Да яго падыходзілі ўсе станоўчыя эпітэты: малады, прыгожы, вясёлы, ветлівы, шчыры, добразычлівы, прыемны... Ён упісваўся ў любое таварыства, у любую кампанію, усіх сустракаў і зачароўваў сваёй прыемнай усмешкай. Ніколі не бачыў яго сумным ці злосным. І аднаго — заўсёды ў гурце, заўсёды з сябрамі. Так было, калі ён працаваў у рэдакцыі "Бярозкі", так было і ў рэдакцыі "Вясёлкі".

Я тады пісаў для дзяцей прозу — фельетоны, апавяданні, аповесці. Аднойчы, калі Артур перайшоў у "Вясёлку", я зайшоў да яго.

— Во макет складаю зімовага нумара, — паказаў мне чарцёж, — Не хапае матэрыялу. Напішы кароценькі вершык.

— Для дзяцей мне вершы не ўдаюцца, — кажу. — Прозу магу.

— Для прозы месца малавата, напішы вершык. Пра што? Ну хаця б пра снежкі. Успомні, як малым гуляў у снежкі. Добра? Прынось заўтра.

Стаў я думаць і "вымудрыў" такія радкі:

*Вось забава дык забава!*
*Снежкі — злева,*
*снежкі — справа,*
*б'юць па шапцы і ў каршэнь...*

— Ну во! А ты казаў: не выходзяць. Цудоўна! Пішы!

Так я стаў аўтарам "Вясёлкі". Неўзабаве сабралася вершаў для маленькіх на кніжку "Сонца скача па траве" (1989).

Тое ж самае было і з перакладамі. Калі Артуру Вольскаму выдавецтва даручыла скласці аднатомнік выбраных вершаў латышскага паэта Яна Райніса і раздаць падрадкоўнікі перакладчыкам, ён у першую чаргу звярнуўся да нас — яго сяброў:

— Паспрабуйце, хлопцы, перакласці, гэта цудоўны паэт, вы яго палюбіце.

Мяне нават угаворваць не стаў:

— Ты служыў у Ліепаі, чуў латышскую гаворку, усё зразумееш.

Так побач з імёнамі вядомых паэтаў перакладчыкаў у салідней кнізе закрасавалі імёны Ніла Гілевіча, Сцяпана Гаўрусёва, Івана Калесніка, Міколы Арочкі, Уладзіслава Нядзведскага і маё. А праз тры гады, дзякуючы намаганням Артура Вольскага выйшла анталогія латышскай паэзіі "Ветрык, вей!", для якой я пераклаў вершы Андрэя Баладзіса, Мірдзы Кемпе, Монты Кромы, Кнута Скуеніека.

Мінаў час. Надышла пара і мне склікаць талаку для перакладу на беларускую мову кніжак Лесі Украінкі, Уладзіміра Сасюры, Тарэня Масэнкі, Аляксандра Пракоф'ева, Хуты Берулавы, Альфансаса Малдоніса, Махтумкулі і інш. Не ўсе маглі аператыўна адгукнуцца, але кніжкі выходзілі, дружба і літаратур і перакладчыкаў мацнела.

Аглядаючыся на тыя часы, дзіву даюся, якія дужыя, цікаўныя і энергічныя былі мы, як моцна і прыгожа сябравалі! І напэўна ж, многа страціў той, хто, дабраўшыся да поўнага карыта, забыў пра тыя дні. Многіх жа сяброў, у тым ліку і Артура Вітальевіча Вольскага, няма ўжо ў жывых, а здрада мёртваму — недаравальная.



ЮБІЛЕІ

# АКЦЁР КУПАЛАЎСКАЙ СЦЭНЫ



Б. Платонаў у ролі Пратасава, 1961 г.

Гэтыя словы пра Барыса Платонава, акцёра Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя Янкі Купалы былі сказаны на творчай вечарыне, прысвечанай стагоддзю з дня нараджэння знакамітага мэтра беларускай, нацыянальнай сцэны. 24 кастрычніка яна прайшла ў тэатры, пад дахам якога і працаваў Барыс Віктаравіч, «дарыў» свой талент, сваё майстэрства... Рамэо і Эзоп, Заслонаў і Зёлкін, Лявон і Федзя Пратасаў, Калібераў і Бальзамінаў ... і, канечне, як жа не сказаць пра выдатны і гумарыстычны вобраз пана Адольфа Быкоўскага ў знакамітым і народным спектаклі «Паўлінка». Ах да, менавіта Барысу Платонаву было ганарова даручана стварыць на сцэне вобразы «магутных свету гэтага» Леніна ды Сталіна... Насамрэч, даволі вялікая і рознапланавая палітра роляў, і гэта пры тым, што тут пералічаны толькі маленькі працэнт ад усяго, што было сыграна ім на сцэне за ўсё жыццё.

На творчай вечарыне ў зале прысутнічалі тыя, хто асабіста ведаў Барыса Платонава, хто з ім выходзіў на купалаўскую сцэну, а таксама сваякі, тэатралы, студэнты творчых ВНУ. У фае тэатра была прыгатавана спецыяльная выстава, якая, дарэчы, будзе дзейнічаць і пасля ўрачыстасцяў. Я разглядаю фотаздымкі. «Які выразны твар. Глыбокія, удумлівыя вочы, на мой погляд, сведчаць аб добрым характары тэатральнага творцы», — з'явілася ў маіх думках. На фотаздымку я бачу Барыса Віктаравіча ў ролі Эзопа (спектакль «Ліса і вінаград»1957, рэжысёр Б. Эрын) — тут міміка яго твару злая, такое адчуванне, што вось-вось з яго вуснаў вырвецца праклён. На другім фотаздымку Платонаў выконвае ролю Канстанціна Заслонава (аднайменны спектакль, 1949, рэжысёр К Саннікаў) — і вобраз Платонава зусім іншы. Фотаздымкаў вельмі шмат і на кожным з іх зусім розны Платонаў — акцёр, які жыве жыццём сваіх герояў.

Далей усім прысутным быў паказаны дакументальны фільм пад назвай «Твар пад грымам», які пабудаваны выключна на ўспамінах сучаснікаў аб акцёры. (На успамінах была пабудавана ўся творчая вечарына.) Са сцэны выступаў пляменнік Барыса Платонава Аляксей Платонаў, прамаўлялі артысты.

Так, напрыклад, заслужаная артыстка Рэспублікі Беларусь Зінаіда Зубкова ўспомніла цікавыя моманты са сцэнічнага жыцця:

— Памятаю, я стаю за сцэнай перад выхадам, вельмі хвалююся, у роце перасохла. Падыходзіць да мяне Барыс Віктаравіч і кажа: «Даражэнькая, а чаму гэта ты так хвалюешся — усё будзе добра». А потым адышоў крышачку і дадаў: «Што гэта я кажу... я ж і сам перад кожным выхадам дрыжу, як асінка. Хвалюйся, дзетачка, хвалюйся!»

Быў і такі смешны выпадак. Барыс Віктаравіч іграў Лявона ў спектаклі паводле п'есы Андрэя Макаёнка якраз у той дзень, калі Юрый Гагарын паляцеў у космас. У сцэне, калі ён ідзе даіць карову, а тая яго брыкае, і акцёр, вылятаючы на сцэну, крычыць: «Глядзіце, мая Лушка (Лушка — жонка Лявона — З.К.) выйшла на Арбіту», Платонаў нечакана дадаў: «Услед за Гагарынам!»

«Нечаканасць і нават страх цябе апаноўвалі ў той момант, калі перад табой знікаў Платонаў і з'яўляўся новы чалавек, герой, асоба, створаная геніяльным талентам акцёра. Платонаў знікаў у сваіх героях на сцэне, але ж менавіта ў сваіх героях ён назаўсёды застанецца ў памяці аматараў беларускага тэатра», — прагучала на вечарыне.

**Зміцер КАРМАЗІН**

# ПАКЛОН БЕЛАРУСКАМУ НАСТАЎНІКУ

***6 лістапада споўніцца 120 гадоў з дня нараджэння вядомага грамадскага і палітычнага дзеяча, публіцыста і літаратара Язэпа ЛЁСІКА.***




З'явіўся ён на свет у шматдзетнай сям'і ў в. Мікалаеўшчына на Стаўбцоўшчыне. "Універсітэты" Я. Лёсіка былі не менш інтрыгуючыя, чым у самога Максіма Горкага: выганялі за "беларускі акцэнт", выключалі за "ўдзел", арыштоўвалі за нелегальшчыну і непадпарадкаванне. Бадзяўся, хаваўся, здабываў хлеб і ўсё ж вучыўся. У 1902 годзе на Чарнігаўшчыне нарэшце афіцыйна скончыў гарадское вучылішча. Настаўнічаў і каментаваў мясцовым сялянам тагачасныя падзеі. У 1911 годзе ў Ноўгарад-Северскім на той жа Чарнігаўшчыне быў зноў зняволены і асуджаны на пажыццёвае пасяленне ў Сібіры. Там пазнаёміўся з паэтам Алесем Гаруном. На Радзіму вярнуўся пасля 1917 года. Жыў у Мінску. Быў сябрам Беларускай сацыялістычнай грамады, рэдагаваў газету "Вольная Беларусь". Арганізоўваў Беларускі вучыцельскі хаўрус. Увосень 1917 года ўзяў шлюб з дачкой пісьменніка Ядвігіна Ш. В.Лявіцкай. Браў удзел у працы Беларускага з'езда, а ў лютым 1918 года ўдзельнічаў у працы Народнага сакратарыята Беларусі і абвяшчэнні Беларускай народнай рэспублікі, з'яўляўся старшынёй прэзідыума Рады БНР, меў дачыненне да стварэння Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі. У 1920 годзе быў арыштаваны ўжо савецкай уладай, але вызвалены пры падтрымцы У. Ігнатоўскага. Пазней займаўся педагагічнай дзейнасцю: чытаў лекцыі, быў правадзейным членам Беларускай акадэміі навук, займаў пасаду дырэктара Інстытута навуковай мовы... Стварыў некалькі падручнікаў па беларускай мове. Пісаў і публікаваў арыгінальныя артыкулы і апавяданні. Летам 1930 года паехаў на Каўказ паправіць здароўе, дзе і быў арыштаваны па надуманай справе "Саюза вызвалення Беларусі". Быў высланы на 5 гадоў у Камышын. У 1934 амніставаны, але пераехаць у Мінск дазволу не атрымаў. Выкладаў у расійскіх глыбінках, пераязджаючы з месца на месца. Апошні арышт — 25.06.1938 года. Язэпа Лёсіка расстралялі ў Саратаўскай турме адразу пасля абвяшчэння пастановы так званай Асобай нарады пры НКУС СССР ад 31.03.1940г. Абедзве справы былі адмененыя ў 1958 і 1988 гадах.

Прозу і публіцыстыку Язэпа Лёсіка вельмі цаніў Максім Гарэцкі, які прароча даводзіў: *"Гэтага пісьменніка чакае яшчэ слаўная будучыня"*.

Гэтак яно і сталася.

**ЛеГал**

## АНОНС

# ПАЭТЫЧНЫЯ ВЕРНІСАЖЫ

***У Дзяржаўным музеі гісторыі беларускай літаратуры працуе літаратурна-дакументальная выстаўка "Покліч". Экспазіцыя адлюстроўвае адно з самых складаных і трагічных дзесяцігоддзяў у гісторыі беларускай літаратуры савецкага часу.***

Лёс творчай інтэлігенцыі ў варунках падзей 20—30-х. [illegible] Пушча, Адам Бабарэка, Максім Гарэцкі, Уладзімір Дубоўка, Янка Купала, Якуб Колас... Азнаёміцца з дакументамі, рукапісамі, асабістымі рэчамі гэтых ды іншых беларускіх літаратараў можна ў Траецкім прадмесці, па адрасе: вул. М. Багдановіча, 13. Тамсама можна зазірнуць у першы падручнік кожнага вучня, наведаўшы выстаўку "Ад "А" да "Я" — з гісторыі буквара".

А ў лістападзе тут разгорнуцца дзве новыя экспазіцыі.

**11 — "Мікола Гусоўскі. Голас XVI стагоддзя".** Выстаўка прысвячаецца 480-годдзю выдання знакамітай паэмы "Песня пра Зубра".

**12 — "Пушкиногорье и его хранитель".** Наш музей праводзіць гэтую выстаўку сумесна з Дзяржаўным мемарыяльным гісторыка-літаратурным і прыродна-ландшафтным музеем-запаведнікам А. С. Пушкіна "Міхайлаўскае" ў межах праграмы "Пушкін па-за юбілеямі". Экспазіцыя працягнецца да 30 лістапада 2003 г.

## АФІША ЛІСТАПАДА

**Нацыянальны акадэмічны тэатр балета РБ**
**пл. Парыжскай Камуны, 1, тэл. 234-06-66**

**31** — А. Адан "Карсар"
**2, 9 (раніца)** — С. Кібіраў "Тры парасяці"
**5** — А. Пятроў "Стварэнне свету"
**11, 12** — Ц. Пуні "Эсмеральда"
**16** — А. Адан "Жызель"

Пачатак ранішніх спектакляў у 11.30, вячэрніх а 19-й гадзіне.

**Нацыянальны акадэмічны тэатр оперы**
**пл. Парыжскай Камуны, 1, тэл. 234-10-41**

**1 (раніца)** — Ц. Кюі "Кот у ботах"
**1 (вечар)** — П. Чайкоўскі "Яўген Анегін"
**2** — В. А. Моцарт "Чарадзейная флейта"
**8** — Д. Расіні "Севільскі цырульнік"
**9** — Д. Вердзі "Трубадур"
**13** — Д. Вердзі "Травіята"
**14** — Святочны вечар, прысвечаны 70-годдзю тэатра

Пачатак ранішніх спектакляў у 11.30, вячэрніх а 19-й гадзіне.

**Рэспубліканскі тэатр беларускай драматургіі**
**вул. Крапоткіна, 44, тэл. 234-60-08**

**4, 12** — А. Курэйчык "Понцій Пілат", гістарычная драма
**5** — А. Шчуцкі "Каласнікі", трагікамедыя (прэм'ера)
**6** — Я. Купала "Адвечная песня", опера-фольк
**8** — М. Рудкоўскі "Жанчыны Бергмана"
**9** — Я. Таганаў "Адэль", гісторыя кахання
**11** — В. Панін "Песні ваўка", драматычна-пластычная элегія
**13** — А. Карэлін "І рэха адказала — ты", дэтэктыў плюс (прэм'ера)
**14** — М. Адамчык, М. Клімковіч "Чорны квадрат", кабарэ-дэтэктыў

Пачатак спектакляў а 19-й гадзіне.

**Беларускі Дзяржаўны маладзёжны тэатр**
**вул. Даумана, 1, тэл. 289-32-62**

**31, 13** — І. Б. Зінгер "Тойбеле і яе дэман"
**1** — У. Шэкспір "Жарсці ў Віндзоры", камедыя
**2** — Ж.-Б. Мальер "Хітрыкі Скапэна"
**6, 8, 15** — Лопэ дэ Вега "Вынаходлівая закаханая"
**9** — М. Куліш "Казанне пра Гуску..." (прэм'ера)
**11, 14** — Бамаршэ "Вар'яцкі дзень, альбо жаніцьба Фігара"
**12** — Э. Іянэска "Трызненне ўдваіх"

Пачатак вячэрніх спектакляў а 19-й гадзіне.

**Нацыянальны акадэмічны драматычны тэатр імя М. Горкага**
**вул. Валадарскага, 5, тэл. 220-15-41, 220-39-66**

**1** — У. Шэкспір "Трагічная аповесць пра Гамлета..."
**2, 18** — Ф. Рэньяр "Адзіны спадкаемца"
**4, 14** — "Амфітрыён"
**5** — І. Губач"Ад'ютант-Ша яго Вялікасці"
**6** — Г. Гауптман "Перад заходам сонца"
**8, 15** — Д. Марота, Б. Рандоне "Суцяшальнік удоў" (прэм'ера)
**9** — Э. Томпсан "На залатым возеры"
**11** — А. Дудараў "Люці", меладраматычны дэтэктыў
**12** — "Тата, тата, бедны тата"
**13** — М. Эрдман "Тэрмінова патрабуецца... самазабойца"

**Малая сцэна**

**5** — Я. Купала "Сон на кургане" (18-30)

Пачатак спектакляў а 19-й гадзіне.

**Тэатр-студыя кінаакцёра**
**пр. Машэрава, 13, тэл. 223-08-11**

**31** — Э. дэ Філіпэ "Філумена Мартурана"

Пачатак спектакляў а 19-й гадзіне

**Беларускі паэтычны тэатр аднаго акцёра "Зьніч"**
**У касцёле св. Сымона, св. Алены (плошча Незалежнасці, 15)**

**10 (раніца)** — П. Васючэнка, С. Кавалёў "Дзівосныя авантуры паноў Кубліцкага ды Заблоцкага", лялечны монаспектакль
**10 (вечар)** — Н. Гілевіч "Не праклінай, што я люблю", паэтычны монаспектакль

## ВЫСТАВЫ

З гэтага года ў Мінску пачала працаваць Гарадская мастацкая галерэя твораў Л. Шчамялёва (пр. Ракасоўскага, 49, тэл.: 291-16-76). Кожны дзень, акрамя нядзелі і панядзелка, усе зацікаўленыя беларускім выяўленчым мастацтвам могуць паглядзець калекцыю работ, падараваных Мінску мастаком Л. Шчамялёвым (30 твораў розных жанраў).

*НА ЗДЫМКУ: мастак Л. ШЧАМЯЛЁЎ.*

**ФОТА Г. ЖЫНКОВА**

## У СТАЛІЦЫ

**ЗАЛА КАМЕРНАЙ МУЗЫКІ**
**пр.Ф.Скарыны, 44-а**

**31 — Канцэрт вакальнай і арганнай музыкі.** Наталля Бярэзіна (сапрана) і Канстанцін Шараў (арган, клавесін). У праграме творы Баха, Гендэля, Шумана, Шуберта, Грыга ды інш.

**ЗАЛА ТЭАТРА ЮНАГА ГЛЕДАЧА**
**вул.Ф.Энгельса, 26**

**4 — Упершыню на Беларусі!** Сусветная знакамітасць, выдатная італьянская спявачка Каця Рычарэлі (сапрана) выступае разам з Дзяржаўным камерным аркестрам Беларусі пад кіраўніцтвам яго галоўнага дырыжора Пятра Вандзілоўскага. Прагучаць творы Расіні, Тосці, Пучыні, Чылеа, дзі Капуа; уверцюры, оперныя арыі, італьянскія канцоны.

**ПАЛАЦ РЭСПУБЛІКІ**
**пл. Кастрычніцкая**

**6 — "Рамансіяда":** шоу-праграма ў межах VIII Міжнароднага музычнага фестывалю "Залаты Шлягер—2003". Удзельнічаюць салісты Зураб Саткілава, Тамара Гвердцытэлі, Аляксандра Стрэльчанка, Дзмітрый Гнацюк, Наталля Руднева (на здымку) Алена Мацярынка ды інш. Аркестр народных інструментаў Магілёўскай абласной філармоніі.

## ПАСПЯШАЙ!

# ІМЯНІННІК ПАРАДУЕ НАС

***...І сам будзе рады, калі дзень яго нараджэння збярэ аншлаг. А яно, пэўна, гэтак і атрымаецца. Бо на сваё 18-годдзе аматараў прыгожага спявання запрашае выбітны і знаны хор "Cantus juventae".***

CANTUS JUVENTAE

Гэта студэнцкі калектыў Мінскага дзяржаўнага лінгвістычнага універсітэта. Ведаюць яго не толькі ў краіне, але і далёка за межамі, дзякуючы актыўным выступленням у лепшых залах Аўстрыі, Германіі, Нідэрландаў, Францыі, Італіі, у эфіры, а таксама дзякуючы распаўсюджванню сваіх музычных праграм на CD.

Хор стварыла ў 1986 г. (і нязменна кіруе ім) выпускніца Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі (цяпер — Акадэмія музыкі) Галіна Цмыг. "Cantus juventae" мае багаты рэпертуар, складзены з музыкі розных часоў, розных народаў і стылёвых напрамкаў. Гэта дазваляе калектыву рэуглярна ўдзельнічаць у айчынных і замежных харавых фэстах, вылучацца і атрымліваць прызы на конкурсах, у тым ліку — міжнародных.

31 кастрычніка, з нагоды свайго паўналецця, хор дае канцэрт у трох аддзяленнях. Што ў праграме? Сучасная літургічная музыка, створаная прадстаўнікамі краін, што ўваходзілі ў склад СССР (у тым ліку, беларускімі кампазітарамі В. Кузняцовым, Л. Шлег, Г. Казловай). Харавыя апрацоўкі песень тых нацый, што насяляюць Беларусь (тэксты — на мове арыгінала). Творы так званых лёгкіх жанраў.

Сёння студэнцкі хор выступае ў фае актавай залы alma mater — Мінскага дзяржаўнага лінгвістычнага універсітэта. Гэта побач з "ЛіМам", па вул. Захарава, 21. Пачатак а 19-й гадзіне.

**С. Б.**

**Наступны нумар газеты "ЛіМ" выйдзе 14 лістапада 2003 года.**

Выходзіць З 1932 ГОДА
У 1982 годзе ўзнагароджаны ордэнам Дружбы народаў

ГАЛОЎНЫ РЭДАКТАР
Віктар ШНІП



АДРАС РЭДАКЦЫІ:
220005, Мінск,
вул. Захарава, 19

ТЭЛЕФОНЫ:
галоўны рэдактар — 284-6673
намеснік галоўнага рэдактара — 284-4404
адказны сакратар — 284-6673

АДДЗЕЛЫ:
публіцыстыкі — 284-7965
пісьмаў і грамадскай думкі — 284-7965
літаратурнага жыцця — 284-7965
крытыкі і бібліяграфіі — 284-7965
паэзіі і прозы — 284-7965
музыкі — 284-8153
тэатра, кіно — 284-8153
выяўленчага мастацтва — 284-7965
карэктарская — 284-8091
бухгалтэрыя — 284-6672
Тэл./факс — 284-84-61



Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра РВУ "Літаратура і мастацтва"

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня Рэспубліканскага унітарнага прадпрыемства "Выдавецтва "Беларускі Дом друку" г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 79

Індэкс 63856 Наклад 1607
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 29.10.2003 у 11.00

Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь
Выдавец: Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Літаратура і мастацтва"

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 715

Заказ 3946

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12